# ЗЬМЕСТ.

Стар.

1. Чарговыя задачы па каляктыўнаму будаўніцтву—з дакладу т. **Аксючыца** . 1
2. Конкурс на лепшы ўраджай—С. **Хоміч** . . . . . . 2

## Каапэрацыя.

3. Як арганізаваць каляктыўную гаспадарку—**Цынкоў і Пліс** . . . 6
4. Сувязь калгасаў з насельніцтвам—**Цынкоў і Пліс** . . . . 7
5. Становішча коляктыўных гаспадарак па Менскай акрузе, з дакладу т. Подзіна—**А. Влашынскі** . . . . . . . . . . 8
6. Пра выдзел зямлі для с-г. каляктыву з зямельнае грамады—**Е. Вішнеўскі** . 12
7. Дасьледчая справа ў калгасаў—**М. Савіцкі** . . . . . 13
8. Пытаньні і адказы па зямельных справах. . . . . . 14

## Дзяржаўная дапамога вёсцы.

9. Якую зямлю трэба адбіраць ад карыстальнікаў у выпадку ўтварэньня імі несапраўдных зямельных зьдзелак—**Вішнеўскі** . . . . . . 15
10. Сяляне аб праекце агульных асноў землякарыстаньня і земляўпарадкаваньня—**А. К.** . . . . . . . . . . . 16
11. Пытаньні і адказы па зямельных справах . . . . . 17

## Сялянскі досьлед.

12. Штучнае ўгнаеньне пад жыта—Сел-Досьлед. **А. Фурса**. . . . 18
13. Мой досьлед пасеву лубіна па жыце—Сел. Ул. **Каштан** . . . 20
14. Вываз гною ў папар—Сел. **Т. Трапешка** . . . . . 18
15. Досьлед з азімай вікай—Сел-дасьл. **Я. Савіцкі**. . . . . 20

## Палявая гаспадарка.

16. Калектывізацыя ў ільнаводзтве—**А. Шатэрнік** . . . . . 21
17. Пажніўнае лушчэньне—**А. Савельляў** . . . . 23
18. Калі лепш ачышчаць насеньне—**Голікаў**. . . . . . 24

## Жывёлагадоўля.

19. Калгасы—гнёзды племяной жывёлагадоўлі—**П. Ластоўскі** . . . 26
20. Чаму жывеле неабходны сьвежы зялёны корм—**І. М. Серада**. . . 28
21. Як пабудаваць сілас—**С. Журык** . . . . . . 30
22. Барацьба з хваробамі жывёлы калектыўнымі сіламі вёскі—**М. Жарын**. . 35
23. Праслухалі курсы—залажылі досьледы—**Я. Савіцкі** . . . . 36

## Лясная гаспадарка.

24. Адна з прац па палепшаньню нашых лясоў—**Праф. С. Мельнік** . . 37
25. Бярлінская таполь—матар'ял для будоўлі і апалу—**Селян Я. К. Мароз** . 38

## С.-г. хроніка.

26. Пчалярскі сезон на Аршаншчыне—**С. Старасьцін** . . . . 39
27. Паштовая скрынка . . . . . . . . . . 40

1-я Дзяржаўная друкарня. Зак. № 2926. У ліку—2000. Галоўлітбел № 1774.

Пролетарыі ўсіх краін, злучайцеся!

ПЛУГ

Навукова-популярная часопісь сельскай і лясной гаспадаркі

Выходзіць раз у месяц

IV год выданьня | Ліпень 1928 г. | № 7

# Чарговыя задачы па каляктыўнаму будаўніцтву.

*З дакладу старшыні Белсельсаюзу т. Аксючыца на зьездзе калгасаў Менскай акругі 30-VI г. г.*

Што ўяўляе з сябе наша сельская гаспадарка і як, па думцы XV партзьезду, можна і патрэбна яе перабудаваць.

XV зьезд партыі даваў сыгнал, што наша сельская гаспадарка не здавальняе ні прамысловасьці сыравінай, ні самай вёскі. І гэта ня гледзячы на тое, што наша сельская гаспадарка перашагнула даваенны ўзровень.

Зараз мы маем 25 мільёнаў сялянскіх двароў, якія патрэбна з часам абагуліць і перавесьці на каляктыўныя формы гаспадараньня.

У выніку зямельнае палітыкі нашага ўраду зроблена абрэзка кулацкіх гаспадарак. Серадняцкія гаспадаркі значна вырасьлі, а бядняцкія гаспадаркі таксама ўзмацніліся. Кулацкіх гаспадарак і бядняцкіх стала значна менш.

Кепска гэта ці добра? Вядома добра. Гэта вынікі правільнай палітыкі нашай Камуністычнай Партыі і ўраду. Тое становішча, якое было да вайны, калі ўвесь хлеб вывозіўся за межы і сялянства галадала, мы адкідаем. Але ўсё-ж на Беларусі існуе такое становішча, што 35 проц. сялянскіх двароў ня мае сэнсу трымаць каня, бо гэты конь зьядае ўвесь прыбытак гаспадаркі. Мы павінны падняць сельскую гаспадарку так, каб забясьпечыць селяніну магчымасьць жыць лепш, чым ён жыў да гэтага часу.

Будаваць нашу сельскую гаспадарку, каб яна расла і здавальняла нашы патрэбы, мы павінны толькі праз каляктывізацыю і сыстэму с-г. каапэрацыі. Партыя і савецкая ўлада прымусова гнаць сялян у калгасы ня думае і гэтага ня робіць, але само сялянства гэту патрэбу каляктыўнага будаўніцтва ўжо зразумела. Аб гэтым сьведчыць той факт, што за вясну гэтага году мы з'арганізавалі каля 300 калгасаў. Рост, як бачыце, нязвычайна вялікі, але ня ўсе калгасы мы яшчэ можам ахапіць сваім апаратам аграномаў і інструктароў.

Пасьля Кастрычніка быў шпаркі рост калгасаў, але мы ня мелі ніякага апарату дзеля іх абслугоўваньня. Пры такім становішчы калгасы разьвіваліся слаба.

Далейшае разьвіцьцё залежыць ад таго, як паставіць сябе каляктыўная гаспадарка паміж ахапляючага вясковага насельніцтва, ці зможа яна быць паказальнай для вёскі.

Першую ўмову, якую мы ставім, гэта каб каляктывісты аб‘ядналіся разам і паднялі гаспадарку на належны ўзровень, дзеля гэтага дзяржаўныя ўстановы павінны ім памагаць крэдытам, машынамі і ўгнаеньнем.

Той пярыяд, калі магчыма было разьвівацца толькі на добрай зямлі быўшых маёнткаў, ужо адышоў. Зараз патрэбна з‘арганізоўваць калгасы і с-г. арцелі на сялянскіх вясковых землях, дапамагаючы ім крэдытам, агранамічнай сілай і г. д.

Другая ўмова—гэта тая, што буйная гаспадарка, каляктыўная—выгадней дробнай, але толькі патрэбна ўмелае яе вядзеньне, агранамічная дапамога, агранамічныя веды для таго, каб ня толькі гноем палепшыць зямлю, але ўжываць і штучнае ўгнаеньне. На гэта пашло ўжо і сялянства, убачыўшы ад гэтага мерапрыемства вялікую карысьць.

Патрэбна дапамога калгасам і з боку каапэрацыі, якая пакуль што грунтуецца на невялікай таварнасьці сельскай гаспадаркі; каапэрацыя да гэтага часу дапамагала слаба, а зямворганы і зараз дапамагаюць кепска калгасам і с-г. арцелям.

Наша каапэрацыя вядзе сваю працу ня так, як у капіталістычных краінах, дзе яна вядзе барацьбу на рынку. Наша каапэрацыя працуе ў сувязі з усімі дзяржаўнымі і грамадзкімі ўстановамі, яна дапамагае дзяржаве плянаваць сельскую гаспадарку. Плянаваць 25 мільёнаў сялянскіх гаспадарак надта цяжка, патрэбна ўвязаць усю збытавую і здавальняючую працу паміж прамысловасьцю і сельскай гаспадаркай.

Каапэрацыя павінна ў першую чаргу дапамагаць калгасам у справе снабжэньня таварамі і збыту сваіх лішкаў. Патрэбна каб і калгасы сваім удзелам у с.-г. каапэрацыі дапамагалі ў яе штодзённай працы.

Калі мы на падставе правільных дырэктыў XIV зьезду партыі дабіліся моцнай сувязі гораду з вёскай, дык на падставе правільных дырэктыў XV зьезду мы здолеем дабіцца ўзмацненьня вёскі праз яе каляктывізацыю.

---

## Конкурс на лепшы ўраджай.

**У гэтым годзе, па пачыну Маскоўскай „Крестьянской газеты“ арганізуецца Ўсесаюзны конкурс на лепшы ўраджай.**

*Рэдакцыя зьвяртаецца да ўсіх с.-г. каапэрацыйных аб‘яднаньняў, да ўсіх калгасаў і саўгасаў, да ўсіх с.-г. гурткоў і да ўсяе сялянскае грамадзкасьці, да кожнага агранома, селькора, селяніна-дасьледчыка і да кожнага перадавога селяніна* **прыняць удзел у гэтым конкурсе.**

**Для чаго арганізуецца конкурс**. Савецкая ўлада прымае ўсе меры каб палепшыць дабрабыт сялянства. Паляпшэньне-ж дабрабыту магчыма толькі пры ўмовах узмацненьня яго гаспадаркі, галоўная галіна якой—паляводзтва. Вось на гэту галіну і трэба зьвярнуць як мага больш увагі, трэба імкнуцца ўсімі спосабамі павялічыць ураджай нашых палеткаў, падвоіць яго.

Ці можна гэтага дасягнуць? Бязумоуна можна. Ёсьць тысячы паасобных гаспадарак, якія атрымліваюць ня толькі ў два, а нават і ў тры разы большы ўраджай у параўнаньні з папярэднімі, дарэвалюцыйнымі гадамі, а таксама і пры параўнаньні з ваколічнымі гаспадаркамі. Між тым, па ўсяму Саюзу ўраджаі павялічыліся ў сярэднім толькі на 5-10 проц. у параўнаньні з даваеннымі. Адсюль паўстае чарговая задача: уцягнуць у сельска-гаспадарчую рэвалюцыю ўсё сялянства, для чаго скарыстоўваюцца ня толькі працаўнікі Наркамзему і савецкага апарату, а і ўсе культурныя сілы вёскі.

Дабіцца павышэньня ўраджаю трэба як мага хутчэй, бо сельская гаспадарка павінна забясьпечыць сыравінай нашу прамысловасьць. Да гэтага-ж часу сыравіны не хапае, г. зн. завадзкая прамысловасьць значна папярэдзіла сельскую ў сваім разьвіцьці.

Каб зьнішчыць гэты недахоп, падштурхнуць сельскую гаспадарку на шлях павялічэньня і палепшаньня сваёй вытворчасьці, Урадам адпушчаны вялікія сродкі на прэміі гаспадаркам, якія вызначацца на конкурсе як найлепшыя па сваёй вытворчасьці, па арганізацыйнаму складу, па ўплыву на ваколічнае насельніцтва і інш.

Цяпер ёсьць усе падставы для ўзмацненьня і перабудовы сельскай гаспадаркі, для таго, каб яна ішла поруч з завадзкой прамысловасьцю. Для гэтага, у першую чаргу, зьяўляецца шлях аб'яднаньня сялянскіх гаспадарак, бо бяспрэчна, што дробныя, паасобныя гаспадаркі і пры вялікім ураджаі ня змогуць дабіцца зьмяншэньня сабекошту сельска-гаспадарчых прадуктаў. Адсюль вынік: трэба імкнуцца да аб'яднаньня дробных гаспадарак да буйных каляктыўных.

Далей,—пабудова культурнай гаспадаркі павінна ісьці праз інтэнсыфікацыю, праз ужываньне лепшых машын, мінэральных угнаеньняў, пасеў кармовых траў і тэхнічных культур. Карысьць гэтых мерапрыемстваў вядома кожнаму чытачу „Плуга“, дзе, напрыклад, вынікі ад ужываньня мінэральных угнаеньняў самі сяляне часта зьмяшчаюць. Пачынаючы з досьледу на невялічкім кавалку поля, некаторыя сяляне-дасьледчыкі ў апошнія годы пачалі ўгнойваць парашкамі цэлыя палеткі. Тое-ж самае і з машынамі і г. д.

Завадзкая прамысловасьць імкнецца забясьпечыць сельскую гаспадарку патрэбнай колькасьцю мінэральных угнаеньняў. Напрыклад, супэрфасфат да рэвалюцыі фабрыкі загатаўлялі, па разьліку на плошчу засева Саюзу, у сярэднім менш паўфунта на дзесяціну, а цяпер-жа вытворчасьць яго налічваецца пудамі на дзесяціну.

Па Саюзу, ды і ў нас на Беларусі, ёсьць шмат культурных гаспадарак, як паасобных, гэтак і каляктыўных, якія маюць значныя дасягненьні. У іх вучыцца толькі ваколічнае сялянства. Калі аб іх напісаць, пазнаёміць з іх дасягненьнямі ўсіх сялян, дык іх мэтадам маглі-б карыстацца ўсе сяляне. Усесаюзны конкурс і мае мэтай выявіць гэтыя гаспадаркі, расказаць пра іх усім сялянам.

Адпускаемыя сродкі на конкурс зьявяцца не ўзнагародай гаспадаркам за іх вынікі і дасягненьні, а гэта будзе плата ім за навуку, за адшуканьне тых мэтадаў і шляхоў, якія-б садзейнічалі ўздыму сельскай гаспадаркі.

Практычна справа ўдзелу ў конкурсе, па пляну „Крестьянской Газеты“ павінна быць наладжана такім чынам:

„Вучастковы аграном, селянін-дасьледчык, селькор, сельска-гаспадарчы гурток і іншыя аб'яднаньні высоўваюць кандыдатаў на конкурс. Робіцца апісаньне дасягненьняў высунутае гаспадаркі, з мажлівым улічваньнем усіх прыродных і эканамічных умоў (зьвяртаючы пры гэтым асаблівую ўвагу на арганізацыю данае гаспадаркі). Гэтае апісаньне зьмяшчаецца потым на старонках сялянскага друку (газэты, часопісі) для шырокага абгаварэньня.

Такім чынам на сялянскі друк, на вясковы актыў і на вясковую грамадзкасьць ускладаецца адказная задача—быць штурхачом у пытаньнях павышэньня ўраджайнасьці нашых палеткаў і перабудовы сельскае гаспадаркі (у бок каапэраваньня).

У палажэньні аб Усесаюзным конкурсе на лепшы ўраджай адзначана, што задачай конкурса зьяўляецца:

1) Выяўленьне найбольш простых і танных спосабаў вядзеньня гаспадаркі, якімі-б здолелі карыстацца бядняцкія і серадняцкія гаспадаркі і якія-б маглі даць найвялікшыя ўраджаі.

Адначасова конкурс мае мэтай выявіць перавагу буйнае калялектыўнае гаспадаркі ў параўнаньні з дробнай сялянскай гаспадаркай.

Прэміі будуць давацца тым гаспадаркам, якія атрымліваюць большы ўраджай пры лепшай арганізацыі вытворчасьці і ўжываньні машын.

2) Конкурс па Беларусі праводзіцца па пшаніцы, жыту, аўсу, ячменю, ільну, караньплодах і бульбе. Па кожнаму раёну бярэцца тая культура, якая тут мае больш важнае таварнае значэньне.

Умовы конкурсу:

Асноўнымі ўмовамі атрыманьня гаспадаркай прэміі зьяўляецца вялікая ўраджайнасьць тых культур, якія найбольш пашыраны ў даным раёне і калі гаспадарка арганізавана так, што адпавядае найбольш мэтазгоднаму тыпу гаспадарак данага раёну.

*Увага:* 1) Трохпалёўка з позьнім пасьвішчам на паперы ў конкурс не дапускаецца.

2) Не дапускаюцца ў конкурс гаспадары, якія пазбаўлены абіральных правоў.

Апісаньне робіць або сам гаспадар, або аграном, селянін-дасьледчык ці селькор. Аб стане гаспадарак, якія паступаюць на конкурс, запрашаецца заключэньне вучастковага агранома.

За лепшае апісаньне гаспадаркі прэміруецца і той, хто апісаў гаспадарку, калі апісаная ім гаспадарка атрымае прэмію. Апрача таго, прэміруецца і аграном, калі на павялічэньне ўраджаю ў апісанай гаспадарцы быў уплыў яго працы.

Памер прэміі намечан наступны:

| | 1 прэмія | 2 прэмія | 3 прэмія | 4 прэмія |
|---|---|---|---|---|
| а) для асобных гаспадарак | 200 р. | 100 | 50 | дыплём |
| б) зямельных вобчаств . } в) калгасаў . . . } г) саўгасаў . . . } | 1000 р. | 500 | 250 | „ |

Прэміі будуць выдавацца ў пераважнасьці натурай: с.-г. машынамі, насеньнем, прышчэпамі пладовых дрэў, мінэральным угнаеньнем і інш.

*Увага:* Пры асобных хадайніцтвах, ня больш паловы прызначанай прэміі, можа быць выдана грашыма: для далейшага палепшаньня гаспадаркі, на пабудову добрых хлявоў, агнятрывалых будынкаў ці дахаў і г. д.

Для прэміраваньня селькораў і аграномаў адлічваецца ня менш 5 проц. агульнае сумы прысуджаных прэмій.

У конкурсе могуць прымаць удзел: *с.-г. камуны, с.-г. арцелі, таварыствы і іншыя аб'яднаньні* па супольнай апрацоўцы зямлі, *саўгасы і паасобныя гаспадаркі.*

Пры апісаньні гаспадарак асобную ўвагу трэба зьвярнуць ня толькі на ўраджай гэтага году, але і на тыя шляхі, якімі дасягнута высокая ўраджайнасьць. Разам з гэтым трэба ўказаць, які ўплыў робіць гаспадарка на ваколічныя вёскі. Калі гэта асобная гаспадарка, дык наколькі яна падрыхтавана да каляктыўных форм. Калгасы павінны падкрэсьліць уплыў іх на асобныя гаспадаркі.

Пажадана, каб апісаньне было зроблена ў форме артыкула, апавядальнага, цікавага і зразумелага для селяніна зьместу.

Праграмы, якімі трэба карыстацца пры апісаньні, ёсьць ў газэце „Беларуская Вёска“ за 14 чэрвеня г. г. Аграном, калі да яго зьвярнуцца з гэтай справай, дасьць патрэбныя тлумачэньні. Матар'ялы апісаньня накіроўваць у рэдакцыю часопісі „Плуг“ ці ў рэдакцыю газэты „Беларуская Вёска“. Тэрмін прысылкі апісаньняў конкурснай камісіі вызначаецца не пазьней 15 жніўня г. г.

**С. Хоміч.**






# Некалькі парад арганізатарам каляктыўных гаспадарак.

У зьвязку з тым, што праца па калектывізацыі сельскае гаспадаркі зараз пашыраецца і што часта такую працу выконваюць ня толькі спэцыяльна прызначаныя арганізацыі, але і асобы, якія зусім незнаёмы з гэтай працай—мы лічым вельмі карысным даць некалькі практычных інструкцый па арганізацыі калгасаў.

Адным з грунтоўных момантаў, на які неабходна зьвярнуць увагу пры арганізацыі каляктыва—гэта клясавы падыход да-падбору сяброў. Мы маем такія выпадкі, калі кулак, які надта далёка стаіць ад каляктыўнага жыцьця, пралязае ў калгас выключна дзеля сваёй карысьці, каб ухіліцца ад абрэзкі зямлі, выкарыстаць усе палёгкі—якія даюцца дзяржавай і г. д. Ад гэтага бываюць зусім непажаданыя вынікі: кулак рознымі спосабамі пачынае разлагаць калгас і прыводзіць яго да скасаваньня. Разнастайнасьць соцыяльных груп, увахо-дзячых у калгас, таксама накладвае пэўны адбітак на яго жыцьцёвасьць і трываласьць. Часта сустракаюцца і такія выпадкі, калі няўмелае ўвязваньне інтарэсаў сяброў з разнастайнымі соцыяльнымі праслаеньнямі, прыводзяць да няспрыяючых вынікаў. Вось чаму пры арганізацыі калгасаў, па меры магчымасьці, трэба падбіраць людзей аднолькавай маёмасьці. Пры арганізацыі калгасу таксама трэба звароч-ваць увагу і на яго разьмер. Нягледзячы на тое, што згодна статуту юрыдычнае афармленьне калгасу магчыма з пяці сяброў, аднак нельга абмяжавацца паказанай лічбай і ня трэба ісьці па найбольш лёгкаму шляху.

Арганізатарам неабходна мець на ўвазе, што лічба 5 (пяць) сяброў ёсьць найменшая. Калгас, які аб'яднае 5 сяброў, ня вельмі трывалы. Калі па якім небудзь прычынам некалькі сяброў выбудуць з такога калгасу (а ад гэтага мы не забясьпечаны), дык апошні перастае існаваць. Невялічкая гаспадарка з 5-ці сяброў, на плошчы 30-35 дзес. зямлі, ня мае магчымасьці выкарыстаць пераваг буйнае гаспадаркі. Такія калгасы ня маюць ніякіх пэрспэктыў і вымушаны насіць спажывецкі характар. Яны ня могуць служыць паказальнікам для паасобных сялянскіх гаспадарак. У канчатковым падрахунку трэба памятаць, што прыбытковасьць (эфэктыўнасьць) і трываласьць гаспадаркі залежыць ад разьмеру яе зямельнай плошчы. Мы лічым, што зямельная плошча калгаспадаркі павінна раўняцца ня менш 80-100 дзесяцінам зямлі (у нашых беларускіх умовах). Толькі такі калгас зможа разгарнуць усе вытворчыя мажлівасьці гаспадаркі і выкарыстаць перавагі буйнага земляробства.

Пай вызначаецца ў залежнасьці ад маёмасьці ўступаючых сяброў. Калі, напрыклад, у калгас аб'ядваецца 10 сяброў і 7 з іх могуць

унесьці маёмасьць у лік паявога ўзносу на 300 рублёў кожны, а 3 сябры—на 150 руб., то пай патрэбна ўстанавіць у разьмеры 200-300 руб. Што датычыць сябраў у якіх да вызначанага паю не хапае 100-150 руб., то да папаўненьня нехапаючай сумы агульным сходам павінен быць вызначаны сталы тэрмін, у які неабходна папоўніць пай. Папаўненьне нехапаючай сумы да вызначанага паю можа праводзіцца адлікамі заробнай платы, а таксама—за лік прыбытку ў канцы рахунковага году. Для таго, каб больш зацікавіць удзельнікаў гаспадаркі, паявы ўзнос патрэбна ўстанавіць ад кожнага сябра. Каб арганізаваць калгас, трэба ўперад правесьці працу па выяўленьню жадаючых аб'яднацца сяброў.

Папярэдняя праца будзе ў тым, што арганізатар падрабязна знаёміць сялян з асновамі калгасаў, робячы даклады на сходах беднаты і пашыраных сходах сельсаветаў. Даклады павінны рабіцца на наступныя тэмы: аб пяршынстве калектыўнага земляробства і аб мерапрыемствах савецкіх і партыйных органаў ў гэтай галіне, падкрэсьліваючы карысьць аб'яднаньняў дасягненьнямі мясцовых калгасаў. Патрэбна таксама, для азнаямленьня з пастаноўкай справы ў калгасах, практыкаваць экскурсіі сялян у лепшыя калгасы. Калі група падабрана, трэба азнаёміць усіх удзельнікаў з статутнымі палажэньнямі і правамі калгасаў. Асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на тыя пункты статуту, дзе гаворыцца аб выдзеле зямлі пры выхадзе з калгасу. Для таго, каб арганізуемым калгасам прыдаць большую трываласьць, арганізатар павінен растлумачыць сябром, што выдзел зямлі асобным сябром, пры выхадзе, нарушае агульна-гаспадарчае становішча тых, якія застаюцца ў калгасе, а ў некаторых выпадках і прыводзіць да распаду арганізацыі. Таму неабходна дабіцца пастановы агульнага сходу аб тым, што сябра калгасу, які выходзіць з арганізацыі, ня мае права патрабаваць выдзелу зямлі. Такія асобы павінны надзяляцца зямлёй у агульна-устаноўленым парадку, як усе безьзямельныя.

Статуты запаўняюцца ў трох экзэмплярах і падпісваюцца 5-цю установамі. Адначасова ўстанаўляюцца: сямейна-маёмасны сьпіс сяброў у 3-х паасобніках, заявы аснавальнікаў аб рэгістрацыі і пратаколы агульнага сходу—у 3-х паасобніках. Увесь гэты матар'ял разам з пастановай райвыканкому напраўляецца ў сэкцыю калгасаў, якая праводзіць далейшую працу па рэгістрацыі статуту, узгадняючы з зямельнымі органамі.

**Цынкоў і Пліс.**

---

# Сувязь калгасаў з насельніцтвам.

Дапамога калгасаў акружаючаму насельніцтву зьяўляецца аднэй з асноўных задач. Калгасы сваёй творчай працай павінны зацікавіць навакольнае насельніцтва, яны на сваіх жывых прыкладах павінны зьяўляцца правадырамі агрыкультурных мерапрыемстваў.

Маючы магчымасьць ужываць у сябе палепшаныя спосабы тэхнікі апрацоўкі глебы, набываць і вырашчваць лепшых вытворнікаў рознае жывёлы, разводзіць сартавое насеньне і г. д., калгасы ні ў якім выпадку не павінны заставацца замкнёнымі, а павінны перанесьці ўвесь свой вопыт і лепшы матар'ял у сялянскія гаспадаркі. Калгасы ўва ўсіх адносінах павінны зьяўляцца школай і асяродкам культуры для акру-

жаючых бядняцка-серадняцкіх гаспадарак. Калгасы павінны аказваць ня толькі звычайную дапамогу сельскім гаспадаркам, як сельска-гаспад. інвэнтаром, рабочай скацінай, насеньнем і г. д., а павінны весьці сталую працу ў адносінах паляпшэньня рабочай і прадукцыйнай скаціны сялянскіх гаспадарак. У некаторых выпадках эканамічна больш моцныя калгасы павінны практыкаваць шэфства над асобнымі бядняцкімі і серадняцкімі гаспадаркамі, якое павінна выяўляцца ў штодзённай практычнай дапамозе. Уся гэтая праца павінна відавочна, на прыкладах саміх калгасаў, паказаць карысьць і пераважнасьць буйнай каляктыўнай гаспадаркі, і гэтым самым падштурхнуць сялян да каапэраваньня сялянскіх гаспадарак, да аб'яднаньня іх у сельска-гаспадарчыя каляктывы. Практыкуемая некаторымі калгасамі дапамога ў выглядзе розных падачак (20—30 ф. хлеба, 1 пуд саломы, сена і г. д.) ня ёсьць дапамога, якую павінны аказваць калгасы. Дапамога, як мы ўжо казалі, павінна аказвацца на грунце вытворчай базы.

Пытаньню дапамогі насельніцтву калгасамі прыдаваў вялікае значэньне Уладзімер Ільліч Ленін, які гаварыў:

„У нашым законе аб соцыялістычным земляўпарадкаваньні—сказана, што мы лічым, бязумоўна, неабходным для ўсялякіх прадпрыемстваў таварыскага, арцельнага земляробства не адрывацца і не адмяжоўвацца ад навакольнага насельніцтва, а абавязкова аказваць яму дапамогу“. (З прамовы Леніна на першым зьездзе Зямельных камун і сельска-гаспадарчых арцеляй, 3-га сьнежня 1919 г., зборнік твораў, том XVI стар. 392).

Пры гэтым Ленін лічыў, што гэтая дапамога павінна выяўляцца ў паказаньні пераваг каляктыўнага земляробства.

„Камуны павінны разьвівацца ў такім напрамку, каб пры дачыненьні да іх сталі мяняцца ўмовы сялянскае гаспадаркі, сустракаючы гаспадарчую дапамогу, і каб кожная камуна, арцель, або т-ва змаглі зрабіць пачатак паляпшэньню гэтых умоў і практычна іх ажыцьцявіць, даказаўшы на справе сялянам, што гэтыя зьмены прыносяць ім толькі карысьць“. (Збор твораў, том XVI, стар. 397).

**Цынкоў і Пліс.**

---

# Становішча каляктыўных гаспадарак па Менскай акрузе.

(*З дакладу Старшыні калгассэкцыі Белсельсаюзу т. Подзіна на зьездзе калгасаў 30-VI г. г.*).

Пачатак каляктыўнага руху па акрузе адносіцца да 1920 году. Да 1921 году ў акрузе налічвалася ўжо 8 калгасаў, арганізованых на землях быўшых маёнткаў. З гэтага часу колькасьць калгасаў павялічваецца з кожным годам. К наступнаму моманту ў акрузе налічваецца 126 калгасаў, з якіх камун—13 з лікам членаў 279 чалавек, арцеляў—103, з лікам членаў 208 чалавек і таварыстваў па сумеснай апрацоўцы зямлі 10, з лікам членаў 58 чалавек. Асабліва вялікі ўзрост калгасаў па акрузе за апошні год, калі з'арганізавалася 77 калгасаў. З ліку ўноў арганізаваных калгаспадарак, 35 проц. арганізаваны на землях працоўнага карыстаньня. Частка арганізавана на землях запаснага фонду, з далучэньнем зямель працоўнага карыстаньня і частка на землях быўшых садова-гародных т-ваў. Сетка новых калгасаў мае невялікую

колькасьць насельніцтва. У сярэднім на 1 калгас прыходзіцца 5 сямей, з лікам 25 едакоў.

Калі ў першыя гады буйнай арганізацыі калгасаў быў і распад іх, праўда, нязначнага процанту, дык ў гэтым годзе распада ня было, было толькі нязначнае іх перабудаваньне ад чаго яны толькі ўзмацніліся.

Зараз мы маем 49 нова-арганізованых яўрэйскіх і 4 польскіх калгасы, а астатнія скляліся з сялян беларусоў, галоўным чынам, беднякоў-батракоў; серадлякі займаюць усяго 16 проц.

Сярэдні разьмер гаспад ркі—137 гэктараў, пры чым для камун сярэдні разьмер плошчы 202 і для арцеляў 115 гэктараў, плошча больш-менш здавальняючая ўмовам для вядзеньня буйнай гаспадаркі. Зямельная-ж плошча ўноў арга іізаваных гаспадарак надта малая. Да правядзеньня земляўпарадкаваньня сярэдні разьмер іх такі: у арцелі 44 гэкт., у т-ва па сумеснай апрацоўкі зямлі—52 гэкт. на 1 гаспадарку. Па правядзеньню земляў ларадкаваньня плошча іх будзе павялічана.

Забясьпечанасьць калгасаў асноўнымі капіталамі з кожным годам павялічваецца. Да пачатку 1927-28 г. маецца наступнае іх становішча (па матар'ялам 25 калгасаў).

| ГРУПЫ КАПІТАЛУ | На 1/X—1926 г. | | | На 1/X—1927 г. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Сума ў руб. | %% | На 1 дзес. с-г. плошчы ў руб. | Сума ў руб. | %% | На 1 дзес. с-г. плошчы ў руб. |
| Будынкі: | | | | | | |
| а) жыльлёвыя | 34862 | 11,1 | 10,9 | 45367 | 12,3 | 14,2 |
| б) гаспадарчыя | 72567 | 23,2 | 22,8 | 90504 | 24,7 | 28.4 |
| Мэліорацыі | 231 | — | — | 546 | — | — |
| Насаджэньня | 63972 | 20,4 | 20,0 | 73922 | 20,0 | 23,1 |
| Ня жывы с-г. інвэнтар | 60341 | 19,3 | 18,9 | 63081 | 17,2 | 19,8 |
| Жывы інвэнтар | 81185 | 25,9 | 25,4 | 93022 | 25,5 | 29,1 |
| Прамысловыя і дапаможныя прадпрыемствы | — | — | — | 48764 | — | — |
| РАЗАМ | 313158<br>100% | 100<br>— | 98,17<br>100% | 415211<br>116,4% | 100<br>— | 114,9<br>117,2% |

Агульная каштоўнасьць асноўных капіталаў у працягу году ўзрасла ў сярэднім на 16,9 проц. Найбольшы процант узросту маюць капіталы ў жывым с.-г. інвэнтары ў будынках, асабліва ў гаспадарчых. Але трэба адзначыць, што забясьпечанасьць калгасаў асноўнымі капіталамі вельмі недастаткова.

Цягавая сіла ў калгасах амаль што выключна складаецца з рабочых коняй. У сярэднім на 100 дзес. пахаці прыходзіцца ў калгасах 8,2 коняў, у той час, як у сялянскай гаспадарцы на 100 дзес. пахаці прыходзіцца 14 конай. У 3-х камунах і 3-х арцелях ёсьць па трактару. Лік трактараў будзе павялічвацца з кожным годам, бо запатрабаваньне на іх надта вялікае. Ня жывога с-г. інвэнтару ў калгасах больш на

дзесяціну с.-г. плошчы, чым у паасобных сялянскіх гаспадарках (у калгасах па 19,8 рублёў, у паасобных гаспадарках 17,4 руб.). Гэта сьведчыць аб тым, што палепшаная і больш каштоўная машына ў калгасах ужываецца больш, чым у паасобных гаспадарках.

Але, вядома, што забясьпечанасьць машынамі і прыладамі далёка недастаткова, асабліва ў арганізованых калгасах у бягучым годзе. Тое-ж можна сказаць і пра будынак. У 20 проц. усіх калгасаў недахопы жыльлёвага памяшканьня зьяўляецца асноўнай перашкодай ў прыёме новых сяброў. Значная большасьць як жылёвых, так і гаспадарчых будынкаў атрыманых з дзярж. зям. маёмасьці, патрабуе капітальнага рамонту.

Пасеўная плошча калгасаў у мінулым годзе складала 74 проц. усёй плошчы пахаці. Папар займае усяго 19,1 проц. пахаці, такім чынам скарыстоўваецца 93,1 проц. пахаці.

Плошча пасеву з кожным годам пашыраецца. Побач з пашырэньнем пасеўнай плошчы, пашыраецца і плошча пад працаёмкімі культурамі—корань і клубеньплодамі, а таксама пад пасеўнымі травамі. Зернявыя культуры паступова памяншаюцца, што паказвае інтэнсыфікацыю гаспадаркі.

Ураджай з кожным годам павялічваецца. Так, у паасобных калгасах ураджай жыта дае 106 пуд. з дзес. і г. д. Штучнае ўгнаеньне калгасамі ўжываецца ў многа раз больш, чым сялянствам вёскі (у мінулым годзе ўложана ў глебу каля 4000 пуд.).

У час пасеву праводзілася кантраксацыя пасеваў у крэдытных і с.-гаспад. таварыствах. Усяго закантрактавана каля 150 дзес., пераважна канюшыны, лубіну, бульбы і ячменю. Ачышчана насеньня акружаючаму насельніцтву каля 6000 пудоў.

Валавая прадукцыя паляводзтва калгасаў за мінулы год выяўляецца ў сярэднім 107 руб. на дзес. Найбольш высокі валавы прыбытак даюць кораньплоды—350 руб. на дзес., бульба—231 руб., і найменш авёс—63,5 руб. на дзес.

Асноўнай прадукцыйнай жывёлай калгасаў зьяўляецца малочная (буйная рагатая жывёла). Гэта частка жывёлаводзтва ў сучасны момант і найбольш разьвіта ў калгасах. Дробнае жывёлаводзтва і птушніцтва пакуль што разьвіты вельмі недастаткова. Рагатая жывёла большай часткай мясцовай пароды. Сярэдні гадовы ўдой каровы каля 80 пуд.

Сьвінаводзтва і птушніцтва ў калгасах хаця і разьвіты слаба, але і ў гэтай галіне ёсьць некаторыя дасягненьні, напрыклад: у аднэй камуне ёсьць племяны выхавальнік сьвіней буйнай белай ангельскай пароды. Праз апошні камуна зьвязана з насельніцтвам вёсак, збываючы чыстапародных парасят на племя.

Намечана арганізацыя буйных сьвінарнікаў чыстай культурнай пароды і 10 гнёзд прамысловага птушніцтва.

Сады, якія былі ў дрэнным становішчы, зараз пачынаюць сыстэматычна ўгнойвацца і апырсквацца. У мінулым годзе валавы прыбытак ад садоўніцтва быў ад ураджаю садавіні на 1 гэкт. 151 руб.

Тэхнічныя мерапрыемствы ў калгасах акругі складаюць дзьве групы: млыны і масла-сыраварныя заводы. Млыноў па калгасах налічваецца 8,3 сярэдняй каштоўнасьцю кожнага ў 2594 руб. Агульны прыбытак ад млыноў за апошні год складае суму 19995 руб., ня гледзячы на тое, што частка млыноў зношана і частка прыбытку ідзе на рамонт.

Сыра-масла заводаў, больш менш добра абсталяваных, налічваецца 4. Заводы за мінулы год перапрацавалі 100.802 літр. малака,

у тым ліку 65400 літр. сялянскага. Выпрацавана масла і сыру на агульную суму—11.553 руб. Агульны прыбытак сыра-масла заводаў складае 6.663 руб.

Валавы прыбытак у бягучым годзе па плянавых меркаваньнях калгаспадарк, складае 665.506 руб., што дае павялічэньне на 15,9 проц. у параўнаньні з мінулым годам.

Пры чым—паляводзтва дае 50 проц., жывёлаводзтва—20 проц. і прамысловыя прадпрыемствы—8 проц. Найлепш гэта відаць з наступнай табліцы:

| №№ па чарзе | ГАЛІНЫ | Агульная сума ў руб. | %% ад агульнай сумы. | У сярэднім на 1 калгасп. |
|---|---|---|---|---|
| 1 | Ад паляводзтва . . . | 194.907 | 49,6 | 7.532,5 |
| 2 | „ лугаводзтва . . . | 40.351 | 10,3 | 1.187,0 |
| 3 | „ жывёлаводзтва . . | 78.424 | 20,0 | 2.306,6 |
| 4 | „ прам. прадпрыем. . | 33.554 | 8,5 | 937,0 |
| 5 | „ садоўніцтва . . . | 12.628 | 3,2 | 371,3 |
| 6 | „ гароднiцтва . . . | 10.050 | 2,8 | 294,1 |
| 7 | „ лесагадоўлі . . . | 878,0 | — | — |
| 8 | „ адходн. прадпр. . | 2.682 | 0,6 | 78,8 |
| 9 | „ інш. . . . . . | 18.805 | 4,8 | 553,0 |
| | РАЗАМ. . . | 392.289 | 100 | 11.537 |

Рыначны зварот калгаспадарак складаў у мінулым годзе суму ў 97.742 руб., што складае 26,1 проц. валавое прадукцыі.

Зварот тавараў па пакупцы прамтавараў для с-г. вытворчасьці за мінулы год выяўляецца ў суме 54.670 руб.

Па меры гаспадарчага ўзмацненьня калгасаў, іх агрыкультурная праца і дапамога бядняцкаму насельніцтву пашыраецца з кожным годам.

Пры дапамозе насельніцтву тым ці іншым відам дапамогі (злучныя пункты, дармовая ачыстка насеньня, абмалот збожжа і г. д.) захоўваецца клясавы падыход.

У правадзімым Усебеларускім конкурсу калгасаў, калгасы Менскай акругі прынялі вельмі актыўны ўдзел; 3 калгасы, якія прымалі ўдзел ў конкурсе, атрымалі прэміі на Ўсебеларускім конкурсе і адзін на Усесаюзным.

Падагульваючы вынікі праведзенай калгасамі працы, неабходна адзначыць, што паспяховае вырашэньне пытаньня арганізацыйнага кіраўніцтва і агрыкультурнага абслугоўваньня калгасаў у будучым часе будзе залежаць, галоўным чынам: ад ступені ўцягненьня ў гэту справу шырокага ўдзелу ўсіх грамадзкіх сіл і ў першую чаргу, грамадзкай аграноміі, ад паўнаты ўцягненьня ў гэту справу агрыкультурнага самаабслугоўваньня саміх калгасаў праз складаньне куставых аб'яднаньняў іх.

Аграном **А. Влашынскі.**

# Пра выдзел зямлі для сельска-гаспадарчага калектыву з зямельнае грамады.

Зямельная грамада складаецца у нас з працоўных земляробскіх гаспадарак. Кожная з іх мае сядзібу на вёсцы і некаторы лік вузкіх палосак зямлі. Часта яны знаходзяцца далёка ад вёскі і таму кепска угнойваюцца. Араць іх прыходзіцца плугам, а то і, па-дзедаўскі, сахою. Ужываньне машын на невялікіх зямельных надзелах некарысна. Таму і ўраджай наша вёска мае невялікі.

Пры злучэньні-ж праспалосных шнуроў у адзін пляц можна вясьці грамадзкую апрацоўку зямлі, як арацьба, сяўба, збор ураджаю—і карыстацца для гэтага машынамі, што значна павялічвае прыбытак гаспадаркі. Яшчэ больш карысна злучаць паасобныя надзелы ў адну супольную гаспадарку—арцель ці камуну—з аграмаджэньнем інвэнтару, капіталу і працы яе сяброў.

На вёсцы заўсёды ёсьць група передавых сялян, якія жадаюць падняць вытворчасьць сваёй гаспадаркі, яны маглі-б вясьці грамадзкую апрацоўку зямлі, а іншыя хацелі-б працаваць у калектыўнай гаспадарцы. Дзяржава дапамагае ім рознымі спосабамі, у прыватнасьці, дае права на выдзел зямлі з грамады.

Група двароў, якая хоча выдзеліцца з зямельнае грамады, павінна заявіць аб гэтым агульнаму сходу. Сход склікаецца ўпаўнаважаным зямельнае грамады, альбо сельскім саветам. Калі сход дае згоду на выдзел, у пастанове яго азначаецца месца выдзелу. Пастанова сходу, паводле арт. 123 зям. код., рэгіструецца на працягу 2 тыдняў раённым выканаўчым камітэтам, які ўносіць справу аб выдзеле зямлі для сельска-гаспадарчага калектыву ў плян земляўпарадчых работ. Лік гаспадарак, што выдзяляюцца, у гэтым разе законам не абмяжоўваецца.

Згодна пастановы Савету Народных Камісараў БССР за 5 чэрвеня 1928 г., сход зямельнае грамады мае права адмовіць у выдзеле зямлі да аднаго месца, калі ў вялікай грамадзе выдзяляецца група, якая не складае 1/10 усіх двароў грамады, а ў грамадзе, у якой няма 100 двароў, выдзяляецца менш дзесяці двароў. Закон абмяжоўвае, у гэтым выпадку, выдзел зямлі з грамады для сельска-гаспадарчага калектыву, як таму, што невялічкія калектывы не карысны, так і таму, што ўсякі выдзел балюча адбіваецца на землякарыстаньні грамады. Грамадзе, калі адначасна ня робіцца ўнутрывясковае земляўпарадкаваньне, прыходзіцца самой пераразьмяркоўваць усю застаўшуюся зямлю. Усякае-ж пераразьмяркаваньне зямлі пярэчыць прынцыпу ўстойлівасьці землякарыстаньня, бо часова разбурае гаспадарку. Гэтую ломку варта дапусьціць толькі ў інтарэсах больш менш буйнага калектыву.

Магчыма, што агульны сход зямельнае грамады адмовіць у выдзеле і тады, калі зьбярэцца група двароў, якая па закону мае права на выдзел і бяз згоды грамады. Гэтая група, паводле пункту „в“ арт. 123 зямельнага код., можа на працягу 14 дзён аскардзіць пастанову сходу ў раённую зямельную камісію. Калі вырашэньне яе аб прымусовым выдзеле набудзе законную моц, яно рэгіструецца раённым выканаўчым камітэтам і служыць падставай для пачынаньня земляўпарадчай справы аб выдзеле зямлі з грамады ў прымусовым для яе парадку.

Пытаньне аб выдзеле зямлі для сельска-гаспадарчага каляктыву абавязкова абмяркоўваецца на агульным сходзе зямельнае грамады, каб папулярызаваць справу калектывізацыі і выклікаць вёску на ўнутрывясковае земляўпарадкаваньне. Правесьці яго ў гэты час найбольш лёгка, бо абмяраецца пры гэтым земляўпарадчыкам уся зямля грамады, робіцца параўнаўчая расцэнка і парушаюцца межы паасобных гаспадарак. Бяз выдзелу-ж прышлося-б вёсцы, якая просіць аб земляўпарадкаваньні, доўга чакаць свае чаргі.

Калі выдзел зямлі для каляктыву робіцца адначасна з унутрысяленным земляўпарадкаваньнем, то сельскагаспадарчы каляктыў можа быць складзены ня менш як з пяці гаспадарак. Безьзямельныя і малязямельныя гаспадаркі, якія арганізуюць сельскагаспадарчы каляктыў, забясьпечваюцца мінімальнаю нормаю за кошт сумежнага запаснага фонду, альбо адабраньня лішкаў зямлі ад буйных гаспадарак.

Пад каляктыў выдзяляецца лепшая па сваёй якасьці і разьмяшчэньню зямля, прычым у поўнай меры абараняюцца ўзаемныя інтарэсы як тых двароў, што выдзяляюцца, так і тых, якія застаюцца ў грамадзе, г. зн. зьнішчаецца праспалоснасьць, укліньваньне зямель, няправільнасьці межаў, дальназямельле, недахопы забясьпячэньня вадою, дарогамі і інш.

За земляўпарадчыя работы па выдзелу зямлі каляктыўныя гаспадаркі ня плоцяць. Кватэру-ж земляўпарадчыку, падводы, матар'ялы і рабочую сілу павінны даваць за свой кошт.

**Е. Вішнеўскі.**

---

# Дасьледчая справа ў калгасах.

У мінулым годзе дасьледчая справа ў калгасах была надзвычайна слаба разгорнута. Інстытут сялян-дасьледчыкаў ахапіў у 1927 г. усяго 14 каляктыўных гаспадарак, або 3 проц. ад ліку ўсіх сялян-дасьледчыкаў і 3,5 проц. ад ліку ўсіх калгасаў. Гэты малы ахоп дасьледчай працы ў каляктыўных гаспадарках у бліжэйшыя гады павінен быць выпраўлены.

Галоўнымі прычынамі малога ахопу калгасаў досьледамі зьяўляюцца адсутнасьць сталага штату станцый і адсутнасьць сталай сувязі каляктываў з дасьледчымі станцыямі.

Сельская гаспадарка ў калгасах яшчэ досыць адсталая. Трэба значна падняць ураджайнасьць палёў, увесьці тэхнічныя культуры, удала вырашыць кармовае пытаньне, увесьці чыста гатунковыя пасевы і, наогул, весьці інтэнсыўную гаспадарку. Каб зрабіць гэта належным чынам, без памылак, трэба ў першую чаргу ў гэтым напрамку паставіць досьледы. Навуковым шляхам магчыма вырашыць гэта пытаньне найбольш мэтазгодна і з найменшымі затратамі сіл і сродкаў. Да вядзеньня навуковых досьледаў у каляктыўных гаспадарках трэба прыцягнуць агранамічны пэрсанал, які абслугоўвае калгасы, а асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на падрыхтоўку дасьледчыка з ліку саміх членаў калгасаў.

Каляктыўным гаспадаркам трэба зьвязацца з Магілеўскай Дасьледчай станцыяй лекавых расьлін, каб атрымаць ад яе насеньне лекавых расьлін і інструкцыі для закладкі досьледаў з гэтымі травамі

Маючы лішкі рабочых рук, каляктыўныя гаспадаркі могуць атрымаць значны прыбытак ад увядзеньня культуры лекавых расьлін, а з другога боку, дапамогуць павялічэньню экспарту лекавага сыр'я з БССР.

У галіне насеннаводнае справы каляктыўныя гаспадаркі павінны адыгрываць вялікую ролю. На ўсе каляктыўныя гаспадаркі лажыцца абавязак па размнажэньню і распаўсюджваньню насеньня лепшага сорту розных культур сярод насельніцтва. Самі-ж каляктыўныя гаспадаркі будуць атрымоўваць сартовае насеньне ад саўгасаў, а часткай ад Дзяржаўнай Насеннай Культуры (каля Гомеля і Воршы).

Нарэшце, вывучэньне саміх каляктыўных гаспадарак павінна займаць значную долю ў працы дасьледчых установ. Гэта работа ўскладаецца на габінэт сацыялістычнага Земляробства Эканамічнага Аддзелу Навукова-Дасьледчага Інстытута імя У. І. Леніна і на дасьледчыя станцыі. Для гэтага трэба забясьпечыць кожную станцыю спэцыяльным працаўнікам па вывучэньню і абслугоўваньню каляктыўных гаспадарак. У раёне дзейнасьці кожнай с.-г. дасьледчай станцыі трэба выдзяліць некалькі найбольш адпавядаючых задачам вывучэньня калгасаў і ў іх паставіць досьледы па вывучэньню лепшых форм арганізацыі працы ў с.-г.: аптымальных разьмераў, ужываньня буйных с.-г. машын і прыладаў, эфектыўнасьці затрат калгасаў, рацыянальнай пабудовы капіталу і г. д.

На падставе гэтых дадзеных дасьледчая станцыя і Аддзел Эканомікі Навукова-Дасьледчага Інстытуту павінны будуць распрацаваць найбольш мэтазгодныя тыпы каляктыўных гаспадарак па розных раёнах Рэспублікі.

**М. Савіцкі.**

## Пытаньні і адказы па зямельных справах.

Пытаньне 104. Зямля працоўнай земляробскай гаспадаркі можа аддавацца ў арэнду толькі са згоды ўсіх поўнапраўных членаў двара. На практыцы-ж умову падпісвае адзін домагаспадар. З якога матар'ялу пры рэгістрацыі дагавору райвыканком можа высьветліць аб згодзе на арэнду іншых сяброў двара (Лупалаўская райземкамісія).

Адказ. На падставе арт. 66 зям. код. прадстаўніком двара па яго гаспадарчых справах прызнаецца гаспадар. Пагэтаму пры рэгістрацыі дагавору на здачу зямлі ў арэнду, падпісанага гаспадаром, райвыканком не павінен пытацца аб згодзе на гэты дагавор членаў двара. Але яны могуць з свайго боку заявіць райвыканкому пратэст супроць дагавору, бо здача зямлі ў арэнду зьяўляецца часовым адмаўленьнем ад зямлі. Пры наліччы такога пратэсту райвыканком не павінен рэгістраваць дагавору.

Пытаньне 105. На грунце арт. 26 інструкцыі за 20 мая 1926 г. позвы зямельных камісій павінны даручацца запрашаемым старанам праз сельсаветы бясплатна. Якжа быць у тых выпадках, калі позвы пасылаюцца праз пошту і на тэрыторыі раёну.

Адказ. Інструкцыя прадугледжвае бясплатнасьць усіх паслуг сельсавету па ўручэньню позваў. Паслугі гэтыя складаюцца з дастаўкі позвы, уручэньня яе, адабраньня расьпіскі і адсылкі ў зямельную камісію. Калі сельсаветы зносяцца з камісіяй паміма пошты, то такжа перасылаюцца і позвы. Калі-ж узьнікае неабходнасьць пасылаць позву поштаю, то ў гэтым разе можна патрабаваць грошы на паштовыя выдаткі згодна арт. 25 інструкцыі. Атрымныя грошы павінны выдавацца толькі па належнаму прызначэньню.




# Аб праекце закону „Агульныя асновы землякарыстаньня і земляўпарадкаваньня“.

## Якую зямлю трэба адбіраць ад карыстальнікаў у выпадку ўтварэньня імі несапраўдных зямельных зьдзелак.

*(У парадку абгаварэньня).*

На мясцох цяпер праводзіцца абгаварэньне выпрацаванага саюзнымі заканадаўчымі органамі праекту агульных асноў землякарыстаньня і земляўпарадкаваньня. Закон гэты зачапляе шераг вельмі важных пытаньняў.

У прыватнасьці, паводле арт. I праекту зямля складае дзяржаўную уласнасьць, таму землякарыстальнік ня можа яе прадаваць, закладваць, даравацъ, адказваць, ці здаваць у арэнду. У пэўных выпадках, з дазволу зямельных органаў, можа быць дапушчана толькі арэнда і мена зямлі.

Калі-ж карыстальнік заключыць незаконную зямельную зьдзелку, то яна лічыцца несапраўднаю (паводле праекту агульных асноў землякарыстаньня і земляўпарадкаваньня), а ўдзельнікі зьдзелкі пазбаўляюцца права карыстацца зямлёю і разам з сваімі пасобнікамі прыцягваюцца да крымінальнай адказнасьці. Гэта значыць, што ад іх адбіраецца ня толькі тая зямля, на якую зроблены недазволены дагавор, але і ўся іншая, якою яны карыстаюцца, і што яны пазбаўляюцца права на атрыманьне зямлі ў другім месцы.

Апроч таго, удзельнікі, а таксама іх пасобнікі нясуць крымінальную адказнасьць, а на падставе грамадзянскага кодэксу павінны аддаць у прыбытак дзяржавы грошы, атрыманыя па несапраўднай зьдзелцы, як няправільнае *забагачэньне.*

Нам здаецца, што для абароны нацыяналізацыі зямлі не патрэбны такія строгія меры. Яны праводзілі-б толькі да абезьзямельваньня сялянства.

Бывае часта гаспадарка па няведаньню здае зямлю ў арэнду і не рэгіструе пры гэтым дагавараў у зямельным органе, альбо дае ў пасаг кавалак зямлі дзяўчыне, якая выходзіць замуж у чужы двор. Зусім даволі ў гэтых выпадках залічыць у запасны фонд толькі тую зямлю, на якую зроблена незаконная ўмова і прыцягнуць да адказнасьці ўдзельнікаў зьдзелкі. Так робіцца цяпер пры ўмысным заключэньні несапраўдных зямельных дагавораў. Загады гэтыя дасягаюць

сваёй мэты, бо лік такіх дагавораў нязначны і таму няма патрабы ўзмацняць кару за зьдзелкі, якія прадугледжаны арт. 1, 41 і 62, а таксама пунктам „е“ арт. 10 праекту агульных асноў.

Больш правільным было-б узгадніць гэтыя артыкулы з увагай да арт. 37 і арт. 38 праекту. Паводле іх, калі зямля здаецца ў арэнду кулацкімі гаспадаркамі, альбо калі незаможная гаспадарка не прыступіць да апрацоўкі зямлі, якую яна здавала ў арэнду, то адбіраецца толькі тая зямля, на якую была зроблена ўмова.

Такім спосабам мы лічым, што ў разе заключэньня незаконных зямельных зьдзелах трэба захаваць сілу арт. 26 З м. Код., БССР, г. зн. адбіраць у запасны фонд толькі тую зямлю, на якую была зроблена зьдзелка, а ўдзельнікаў яе прыцягваць да крымінальнай адказнасьці.

**Вішнеўскі.**

---

# Сяляне аб праекце агульных асноў землякарыстаньня і земляўпарадкаваньня.

Прачытаўшы сялянам вёскі Дуб.-Слабада (Крупскага сел-савету) „асновы земляўпарадкаваньня і землякарыстаньня“, надрукованыя ў дадатку да газэты „Беларуская Вёска“ ад 1-га чэрвеня 1928 г. за № 61 і растлумачыўшы падрабязна, для абгаворваньня,—беднякі і серадцякі найшлі, што праект зямельнага закону зачапляе шэраг пытаньняў вельмі важных для сялянства. Асабліва застаноўліваюцца яны на наступных пытаньнях: у артыкулах 41 і 62 гаворыцца, што за незаконныя ўмовы аб здачы зямлі ў арэнду, уся зямля адбіраецца ад землякарыстальнікаў, калі арандатар парадае зямлю ў арэнду другой асобе. Па іх думцы зямля дзяржаўнага запасу, (калі дзяржавай адпускаюцца сродкі на яе падтрыманьне) субарэнда, павінна зусім адымацца і перадавацца вобчаству землякарыстальнікаў, або ў запасны фонд. Калі зямля здаецца кулацкім гаспадаркам, дык таксама павінна адымацца. Пры ўтварэньні ўмоў па арт. 37 і 33 адбіраць толькі частку зямлі, якая зьяўляецца аб‘ектам забароненай умовы.

Пераразьмеркаваньне зямлі паміж землякарыстальнікамі ў вобчаствах з агульным парадкам землякарыстаньня можна рабіць як між гаспадаркамі, якія ўваходзяць у вобчаства, так і гаспадаркамі, якія не ўваходзяць у яго, але з лепшымі формамі вядзеньня гаспадаркі і неабходнасьці барацьбы з кулацтвам (арт. № 14).

Артыкул 33 праекту агульных пачаткаў патрабуе, каб пастанова сходу зямельнага вобчаства аб правядзеньні агрыкультурных палепшаньняў была прынята большасьцю дзьвёх трацей галасоў, зямельны-ж кодэкс патрабуе ў гэтым разе простую большасьць. Па думцы сялянства больш мэтазгодным будзе прыгавар дзьвёх трацей голасоў. Гаспадаркі, якія не прыступаюць да апрацоўкі атрыманай у надзел зямлі, а сыстэматычна з году ў год аддаюць у арэнду, павінны пазбаўляцца зямлі. Здаваць у арэнду зямлю перасяленцам трэба не на шэсьць год, а на менш, бо ад гэтага абясьсільваецца глеба (сяляне пад канец тэрміна ня ўгнойваюць поле) і доўгі тэрмін арэнды можа перашкаджаць земляўпарадкаваньню. Правадзімы ў артыкуле 40 дазвол на здачу

зямлі ў арэнду, калі гэтага жадае большасьць сяброў двара, у поўнай меры мэтазгодна.

У некаторых выпадках можна прызнаць поўнапраўнымі сябрамі вобчаства і такіх асоб, якія не дасягнулі поўнагодзьдзя і не зьяўляюцца самастойнымі домаўласьнікамі (арт. 49). Гэта бывае ў тым выпадку, калі ў гаспадарцы застаюцца толькі не поўналетнія сябры сям'і (сьмерць бацькоў, служба, часовы адыход ад гаспадаркі).— Неабходна зацьвярджэньне сельскім саветам пастаноў сходу зямельнага вобчаства аб землеўпарадкавальным праекту (прадугледжаным пунктам „б", арт. 51). Права адмяняць пастановы сходу зямельнага вобчаства трэба пакінуць за зямельнай камісіяй, якая будзе разглядаць скаргі адначасова з пастановамі сходу, а сельскаму савету даць права на прыпыненьне незаконных пастаноў сходу.

**А. К.**

(в. Дуб.—Слабада, Менскай акр.)

Першыя артыкулы абгаворваньня праекту саюзнага зямельнага закону „Аб агульных асновах землеўпарадкаваньня і землякарыстаньня", які надрукованы Наркамземам як дадатак да газэты „Беларуская Вёска" ад 1-га чэрвеня г. г. з мэтаю азнаямленьня з ім сялянства і зямельных працаўнікоў, рэдакцыя зьмяшчае. Пажадана, і патрэбна каб аб праекце выказаліся як мага больш грамадзян. Усякая заўвага і папраўка будзе карыснай.

(*Рэдакцыя*).

---

## Пытаньні і адказы па зямельных справах.

Пытаньне 106. Выплата з растэрміноўкай прысуджана сябру, які выходзіць са складу двара. Ці мае права гэты сябар жыць у хаце двара да канчатковага атрыманьня ўсёй прысуджанай сумы. (Бягомльская райземкамісія).

Адказ. Пры выхадзе сябра са складу двара спыняецца сувязь з двaром як юрыдычная (выключэньне са сьпіску сяброў двара), так і фактычная (пакіданьне тэрыторыі двара і няпрыняцьце ўдзелу ў яго працы). Калі прысуджаецца быўшаму сябру двара выплата, то гэтым ён адносна двара робіцца староньнім узыскацелем. Растэрміноўка не дае істцу права карыстацца неналежачай да яго маёмасьцю і ў прыватнасьці домам двара, з якога ён выйшаў.

Пытаньне 107. Колькі дрэў, якія растуць на сялянскіх землях, можа знаходзіцца ў поўным распараджэньні адпаведна сялянскай гаспадаркі і якая колькасьць гэтых дрэў павінна перадавацца ў склад лясоў мясцовага значэньня.

Адказ. Лясны вучастак, які мае ня менш 200 дрэў таўшчынёю ад 5 вяршкоў,— уваходзіць, як каштоўны, у склад лясоў мясцовага значэньня, хоць-бы лясок гэты знаходзіўся на зямлі некалькіх працоўных гаспадарак. Абасоблены-ж вучастак плошчаю менш за 1 дзесяціну ня лічыцца лесам, калі на ім няма 200 дрэў таўшчынею ад 5 вяршкоў. Такі вучастак уваходзіць у склад зямель працоўнага карыстаньня і знаходзіца разам з дрэвамі ў распараджэньні адпаведнай гаспадаркі.

Пытаньне 108. Калі пры землеўпарадкаваньні наступае канчатковы момант паверкі і выпраўленьня пасямейных сьпіскаў, пасьля якога ўсе зьмены ў дварох, як-то: сьмерць, нараджэньне, шлюб і прымацтва не павінны быць прыняты пад увагу (Віцебская акземкамісія).

Адказ. Зьмены ў пасямейных сьпісках на падставе шлюбу, сьмерці, прымацтва і г. д. у сваю чаргу выклікаюць зьмены ў зямельных правох, а гэта адбіваецца на цэлым землеўпарадчым праекце. Каб ня прыходзілася бясконца яго папраўляць, у інтарэсах землеўпарадкаваньня вызначаецца канчатковым момантам паверкі і ўнясеньня зьмен у пасямейны сьпісак, час пасьля расцэнкі зямель і перад складаньнем праекту. У гэты час павінен быць склікан агульны сход усіх грамадзян з удзелам прадстаўнікоў райвыканкому і сельсавету. На сходзе гэтым па дакладу землеўпарадчыка канчаткова зацьвярджаецца пасямейны сьпісак.

---






## Вываз гною ў папар.

У вёсцы гной возяць на папар у пятроўку, у ліпені м-цы. Заворваць яго зараз-жа ня прыходзіцца, бо тут пасецца скаціна. Вывезены гной ляжыць на полі тыдзень, а то і болей. За гэты тэрмін ён так высыхае, што, каб, напрыклад, падпаліў, дык ён гарэў-бы як салома. Такі сухі гной вельмі цяжка разьбіваць, а яшчэ цяжэй заворваць. Яго набіраецца шмат пад дышла плуга, плуг выскаквае і поле арэцца з агрэхамі. Пры гэтым толькі тое і рабі, што адцягвай каня назад; конь, вядома, марнуецца, ды і араты, выкідаючы гной у баразну спад плуга, ня менш. Зааралы ў глебу сухі гной марудна раскладаецца і спрыяе высыханьню глебы, так як паветра праходзіць па сухой саломе ў глебу, як па трубах. Зразумела, што ўраджай пры такім угнаеньні вельмі дрэнны, затым што гной ня ўсьпее раскласьціся, а таму ня зможа быць спажыўным для расьлін.

Гной вывозіць на папар трэба зараз-жа пасьля пасеву яравых і зараз-жа, каб ня даць прасохнуць, яго трэба зааралць. Вывозіць гною трэба столькі, каб на заўтра можна было ўвесь зааралць. Ва ўсякім разе трэба імкнуцца, каб ён ляжаў на полі менш сутак. Гной разьбіваць трэба зараз-жа перад ворывам. Сыры гной вельмі добра заворваецца, добра і хутка перапраўае. І калі прыходзіцца сеяць, то яго як і ня было, а глеба робіцца чорнай і вільготнай. Азімыя ўсходы пры такой апрацоўцы глебы заўсёды бываюць цёмна-зялёнага колеру і вельмі добра разьвіваюцца, як восеньню, так і вясною.

Раньняя вывазка гною і хуткае заворваньне вельмі выгадны. Пры роўнай колькасьці гною і аднолькавай апрацоўцы глебы і насеньні ўраджай павышаецца на 20—25 пудоў жыта з дзесяціны.

Сел. **Т. Трапашка**.

(в. Матарова, Сьмілавіцкі р.).

---

## Штучнае ўгнаеньне пад жыта.

*(Вынікі трохгадовага досьледу).*

Як любіцель статыстычнай працы, я на працягу шэрагу год выявіў, што ў нашым Цішаўскім с/с 65 працантаў папару штогодна застаецца няўгноенным, а на рэшту 35 проц. папару гною кладзецца ад 600 і да 1600 пуд. на дзес. Але, як я ведаю, іншыя вёскі няўгнойваюць і 35 проц. свайго папару. Увесну селянін амаль увесь гной вывозіць на гарод, бульбу, лён і г. д. А колькі ўжо там набярэцца за месяц—паўтары, калі дадаць да гэтага што жывёла ў гэты час большасьць сутак знаходзіцца ў полі, а гаспадар эканоміць з подсьцілам. У сувязі з гэтым, пытаньне аб ужываньні штучнага ўгнаеньня пад жыта, а таксама пад азімую пшаніцу, набывае да сябе больш уважлівасьці і ін-

тарэсу, чым ужываньне яго пад іншыя расьліны. Селянін на ўраджаі жыта пакуль што будуе моцнасьць і багацтва свае гаспадаркі. Таму бяз штучнага ўгнаеньня селяніну не магчыма ні палепшаньне ні павялічэньне гаспадаркі. Аб карыснасьці ўжываньня штучнага ўгнаеньня кажуць мае трохгадовыя досьледы.

Першы досьлед з штучным угнаеньнем быў закладзены ў 1924 г. другі ў 1925 г. і трэйці ў 1926 г. Усе ўмовы былі аднолькавы, глеба цяжка-сугліністая. За тры гады да сяўбы жыта (на досьледчых вучастках), сеялася бульба з угнаеньнем 1800 пуд. гною на дзесяціну., на другі год сеяўся ячмень, а ў год засеваў жыта—чорны папар. Жыта высяваў па разьліку 11 п. на дзесяціну. Штучныя ўгнаеньні ўносіў такім чынам: супэрфасфат у час сяўбы і забаранаваў разам з жытам; салетру чылійскую на палову ў час сяўбы—расьсяваў як ужо забаранаваў жыта, а палову ўвесну. Калійную соль за 1$^{1}/_{2}$—2 тыдні да сяўбы жыта (заворваў на 4 вярш.). Гной клаў за 7--9 тыдняў да сяўбы. Агульная плошча пад досьледамі была ўсе тры гады па 500 кв. саж., а кожная дзялянка па 50 кв. саж. Усяго было 10 дзял. Кліматычныя ўмовы гэтыя тры гады былі шмат у чым аднолькавы (як дажджы, сьнег і наогул надвор'е). Вымачак і вымярзаньня на досьледчых вучастках ня было. Жывёла па руні не хадзіла. Увесну жыта баранавалася.

Жыта сеялася ў роскід рукамі, насеньне было завадзкое—Іванаўскае сартаванае. Вынікі досьледу паказалі наступнае:

| № № | ЧЫМ УГНОЕНА ДЗЯЛЯНКА (разьлік на дзесяціну). | Досьлед 1924—1925 г. Ураджай з дзесяціны. | | Досьлед 1925—1926 г. Ураджай з дзесяціны. | | Досьлед 1926—1927 г. Ураджай з дзесяціны. | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Пуд. | Фун. | Пуд. | Фун. | Пуд. | Фун. |
| 1 | Кантрольная (без угнаеньня—чорны папар) . . . . . . | 61 | 8 | 63 | 24 | 64 | 8 |
| 2 | 2400 пуд. гною на дзес. . . . | 164 | 16 | 161 | 16 | 168 | 24 |
| 3 | 1800 пуд. гною і 16 пуд. калійнай солі 30 проц. . . . . | 131 | 10 | 122 | 4 | 126 | — |
| 4 | 1800 п. гною і 12 п. супэрфасфату. | 150 | 24 | 152 | 16 | 157 | 8 |
| 5 | 1800 пуд. гною і 10 пуд. чылійскае салетры . . . . . | 141 | 24 | 144 | 24 | 147 | 24 |
| 6 | 24 пуд. супэрфасфату . . . | 100 | 32 | 102 | 24 | 103 | 32 |
| 7 | 15 пуд. чылійскай салетры . . | 96 | 24 | 99 | 24 | 111 | 24 |
| 8 | 15 пуд. калійнай солі 30 проц. . | 92 | 16 | 100 | 32 | 96 | — |
| 9 | 1200 пуд. гною 12 пуд. супэрфасфату і 6 пуд. калійнай соли. . . | 144 | 24 | 144 | — | 152 | 16 |
| 10 | 1200 пуд. гною і 20 пуд. салетры . | 151 | 8 | 159 | 24 | 169 | 8 |

За ўсе тры гады ні адно штучнае ўгнаеньне не „падвяло“. Яно ня толькі акуплівала само сябе, але давала значны прыбытак. Якое

ўгнаеньне больш паднімае ўраджай жыта і саломы, аб гэтым точна і яскрава паказана ў табліцы. Мая парада: ужывайце штучныя ўгнаеньні пад жыта, яно ніколі вас не падвядзе, а дасьць вялікі даход.

Сел.-дасьледчык **А. Фурса.**

(Магілеўшчына, в. 1-я Цішаўка).

---

## Мой досьлед пасеву лубіну па жыце.

Я прачытаў у кніжцы, што можна сеяць лубін па жыце ў час красаваньня і потым скарыстаць яго, як зялёнае ўгнаеньне.

У 1926 г. я пасеяў на 125 квадрат. саж. лубіну па жыце. Пасьля таго, як жыта зжалі, лубін пачаў хутка расьці і да позьняй восені вырас да натуральнай велічыні.

62 сажні я ўзараў увосень, а 62 вясною. Пасеяў на васеньняй воранцы бульбу, а на веснавой авёс. Поруч, на той-жа самай палосцы, каля аўсу пасеяў аўсу бяз гною і лубіну, а бульбы пасадзіў на гнаі. Поруч з бульбаю, па лубіну ўраджай бульбы быў такі як з той бульбы, якая была на гнаі, а з аўсу, які быў на лубіне атрымаўся ўраджай на палову большы, чым той, які быў пасеяны бяз лубіну і гною.

Сел. **Ул. Каштан.**

(в. Матарова, Меншчына).

---

## Досьлед з азімай вікай.

Увосень мінулага году я ад Рэдакцыі часопісі „Плуг“ атрымаў 100 гр. насеньня вікі-азімкі. Пасеяў яе ў жыце прыблізна ў канцы верасьня. Усходаў праз некаторы час ня было і я думаў, што віка загінула. Сёлета, калі сышоў сьнег і зямля абсохла, віка хутка пашла расьці і да 3 чэрвеня дасягнула росту болей аршына. Рост і цяпер яе прадаўжаецца, яна круціцца і ў‘ецца наваколь жыта, ужо завязваюцца пучкі для красаваньня. Каб разьвесьці яе болей я рашыў усю яе кінуць на насеньне. Досьлед удаўся. Праз 2—3 гады, павялічыўшы пасеў, мы будзем мець добры зялёны корм раньняй вясною для жывёлы.

Сел.-дасьледчык **Я. М. Савіцкі.**

(в. Шмакі, Чачэвічскага р.).
15 чэрвеня.

---

# Палявая гаспадарка

## Калектывізацыя ў ільнаводзтве.

Да гэтага часу думалі, што ільнаводзтва павінна быць справаю толькі дробных сялянскіх гаспадарак, якія маюць шмат працоўных рук, сеюць лён у нязначных разьмерах (па якой 1/4 дзес.) і ўсе працы па гадоўлі і апрацоўцы лёну павінны рабіць рукамі, а не машынамі. Гэта вельмі стары, агранамічна-кансэрватыўны, застыўшы погляд, які захаваўся ад царскіх часоў. Жыцьцё паказала зусім іншае.

Па-першае, у Беларусі мы ўжо маем шмат буйных калектыўных гаспадарак у Віцебскай і Полацкай акругах, якія спэцыяльна займаюцца прамысловым ільнаводзтвам і сеюць лёну па 10 і больш дзесяцін. Гэта яны робяць з часу аднаўленьня ільнаводзтва—з 1923 г. Некаторыя з іх вядуць ільнаводзтва ад ранейшых часоў, а частка пачалі займацца ільнаводзтвам нядаўна. Існаваньне іх сьведчыць, што буйным гаспадаркам выгадна займацца ільнаводзтвам.

Па-другое, у самыя апошнія часы—з 1925 г. у РСФСР пачалі нараджацца зусім новыя формы калектыўных ільнаводных гаспадарак, якія выкліканы да жыцьця выключна ільнаводзтвам, жаданьнем мець супольнае ільняное поле ў агільным грамадзкім севазвароце, каб мець магчымасьць лепш выраблять поле і апрацоўваць лён. Такія калектыўныя гаспадаркі ўтвораны ў раёне Ліхаслаўскага ільнянога камбінату ў Цьвярской губ. Яны пачалі з грамадзкай апрацоўкі закінутага кавалка зямлі і грамадзкай сяўбы на ім лёну. Калектывы аказаліся жыцьцёвымі і разгортваюць працу далей. У апошнія два гады схожыя калектывы пачалі ўтварацца ў Ленінградзкай, Ноўгарадзкай, Пскоўскай і іншых ільнаводных губ.

Такім чынам жыцьцё паказвае, што ільнаводзтва ня толькі магчыма у буйных гаспадарках пры адпаведных умовах, але яно само выклікае да жыцьця новыя буйныя гаспадаркі на калектыўных падставах. І зразумела, бо ільнаводзтва па сваёй сутнасьці патрабуе шмат працы, а цяпер ёсьць магчымасьць ручную працу замяніць машынамі. Апошнія пад сілу толькі буйным гаспадаркам.

Маючы ўсё гэта на ўвазе, а таксама і тое, што урад ідзе насустрэч калектывізацыі шляхам прадстаўленьня калектывам крэдыту, ільгот па падатку, першачарговым забясьпечаньнем сродкамі вытворчасьці (машынамі, насеньнем і ўгнаеньнем), перад бядняцкімі і серадняцкімі гаспадаркамі і агранаміяй ільнаводных раёнаў Беларусі паўстае практычная задача: скарыстаць гэты момант для разьвіцьця ільнаводзтва.

Па праекту новага пэрспэктыўнага пляну па ільнаводзтву на пэрыяд з 1928 па 1933 г. Наркамзем БССР прадугледжвае пачаць арганізацыю простых калектыўных аб'яднаньняў, так званых пасяўных ільнаводных калектываў.

Да арганізацыі пасяўных ільнаводных калектываў трэба приступіць з гэтага году, з тым, каб ужо у 1929 г. яны зрабілі першыя пасевы лёну.

Мэта пасяўных калактываў—утварыць узоравыя ільнаводныя гаспадаркі, якія будуць рацыянальна вырабляць глебу пад лён, ужываць штучнае ўгнаеньне, сеяць палепшаным насеньнем і максымальна прымяняць машыны, як пры культуры так і пры першай апрацоўцы лёну. Найбольш буйныя калактывы павінны быць забясьпечаны трактарамі і камбінаванымі машынамі, церніцамі-трапашкамі, невялікай вытворчасьці рухавіком, для якіх будзе служыць трактар. Гэты-ж трактар пры ачыстцы ільнянога насеньня ў калактыве будзе вярцець трашчотку і ільняны трыер, а ў летні час ён будзе працаваць у полі.

Адным словам, у пасяўных ільнаводных калактывах будуць ужывацца ўсе навейшыя тэхнічныя і агранамічныя дасягненьні з тым, каб атрымаць найвялікшыя ўраджаі і выхады валакна і насеньня.

Парадак утварэньня пасяўных ільнаводных калактываў наступны:

Перш за ўсё трэба абмеркаваць, дзе ў раёне ёсьць належны для пасеву лёну кавалак зямлі ня менш 3 дзес. Для гэтай мэты вельмі падыходзяць пусташы, дзірваны, выганы, лясныя высечкі і інш. зямельныя плошчы, якія да гэтага часу не скарыстоўваюцца як трэба, паводле цяжкасьці апрацоўваць іх у адзіночку. Можна дапасаваць да калактыву ня толькі закінутыя, але і скарыстоўваемыя зараз плошчы, але пры ўмове, што яны мяжуюцца і на іх можна зрабіць адно агульнае ільняное поле ў севазвароце. Вельмі лёгка ўтвараць ільняныя пасяўныя калактывы з існуючых пасялковых аб'яднаньняў. Затым у гэтай вёсцы, ці пасёлку склікаецца сход, які павінен вынесьці прыгавар аб утварэньні калактыва, скласьці сьпіс жадаючых уступіць у яго і прыняць ці дапасаваць статут. На першы час калактыў можа існаваць па статуце для грамадзкай апрацоўкі глебы, у далейшым, у залежнасьці ад напрамка разьвіцьця калактыву, можна будзе перайсьці на статут ільнаводнага аб'яднаньня.

Па праекту Наркамзему гэтым калактывам мяркуецца даваць доўгатэрміновыя крэдыты і частку сродак даваць без звароту па дзяржбюджэту. Калактывы з плошчаю лёну ад 3 да 10 дзес. лічацца малымі і на іх абсталяваньне мяркуецца адпускаць 1250 р. крэдыту, з якога 50 проц. без звароту; калактывы з плошчаю лёну звыш 10 дзес. лічацца вялікімі і на іх абсталяваньне будзе адпускацца 7550 р., з якіх 25 проц. беззваротна.

Акрамя калактываў па супольнай сяўбе лёну, трэба ўтвараць калактывы ў галіне першай апрацоўкі лёну, як, напрыклад, калактыўныя мачылішчы, мяльныя і мяльна-трапальныя пункты, абсталёваныя самымі новымі складанымі машынамі.

Урэшце—трэба пачаць арганізацыю жаночых калактываў і арцеляў па прадзіву, што аслабаніць вясковых працаўніц ад сасаньня ўсю зіму кудзелі і накіруе іх працу на догляд за жывёлаю і інш. Апошнія калактывы і арцелі могуць мець вялікі посьпех сярод сялянак. Мясцовым працаўнікам трэба своечасова абмеркаваць іх арганізацыю і даць заяўкі па лініі зямельных і каапэрацыйных органаў, каб у цэнтралізаваным парадку падрыхтаваць пытаньне аб забраняваньні крэдытаў і загатоўцы належных машын, якія прыдзецца большаю часткаю заказваць за межамі.

Вось што можна калектызаваць у ільнаводзтве,—што мае мэтаю пашырэньне плочшы лёну і павышэньне ўраджайнасьці і якасьці валакна і насеньня лёну.

**А. Шатэрнік.**

---

# Пажніўнае лушчэньне

Каб атрымаць павышаны ўраджай яравых, неабходна ўзорваць поле, па мажлівасьці, зараз-жа пасьля зжыну і звозкі азімага збожжа. З прычыны таго, што ў час прыборкі азімых у гаспадарцы награмаджаецца шмат лішніх неадкладных прац і часта бывае немажліва зрабіць асноўнага ворыва за недахопам часу, а таму прыбягаюць да так званага *пажніўнага лушчэньня*.

Пажніўным лушчэньнем завецца самае мелкае ворыва (1-1½ верш.), якое зусім лёгка па свайму выкананьню і вельмі карысна па сваёй сутнасьці. Пажніўнае лушчэньне засьцерагае глебу ад лішняга высыханьня, зьнішчае сьмяцьцёвую расьліннасьць, шкодных шасьціножак, дае вольны доступ паветра ў глебу, паляпшае мікробіолёгічнае жыцьцё глебы, а гэта апошняе вядзе да большага накапленьня пажыўных матэрый, якія патрэбны для культурных расьлін, ад чаго можа быць значна павялічаны ўраджай.

Падкрэсьлю толькі што сказанае дадзенымі нашых дасьледчых установ. Так, напрыклад, па выніках дасьледчага поля Ціміразеўскай с-г. Акадэміі, у досьледзе з рознымі спосабамі апрацоўкі глебы пад авёс, атрыман наступны ўраджай у пудох аўса з дзесяціны:

1. Звычайнае восеньняе ворыва дало 102 п. зярнят
2. „ веснавое „ „ 120 „ „
3. Лушчэньне + восеньняе „ „ 127 „ „
4. „ + веснавое „ „ 138 „ „

Разглядаючы прыведзеныя лічбы можна ўпэўніцца ў тым, што позьняе васеньняе ворыва зьяўляецца найменш карысным спосабам апрацоўкі глебы. Значна лепшы вынік атрымаўся па раньняй веснавой воранцы (120 п. замесц 102 п.). Пажніўнае лушчэньне+восеньняя пераворка дала (127 п.). Найлепшы-ж вынік атрымаўся ад пажніўнага лушчэньня з веснавою пераворкаю—138 пуд.

У нас, на Беларусі, па даным Горацкай с-г. дасьледчай станцыі [1]), у сярэднім за тры гады (1924, 25, 26 г.) у досьледзе з апрацоўкай глебы пад ярыну, атрыман наступны ўраджай аўса ў пудох на дзес.

| Чаргі №№ | Апрацоўка | Ураджай у пуд. на дзес. як сярэдн. за тры гады | | Прыбаўка ў п. зярнят на дзес. у параўнаньні з восеньнім ворывам | Ураджай зярнят у проц. |
|---|---|---|---|---|---|
| | | Саломы | Зярнят | | |
| 1. | Восеньняе ворыва . . . . | 82,2 | 61,5 | | 100 |
| 2. | Веснавое ворыва . . . . . | 82,2 | 72.2 | + 10,7 | 117 |
| 3. | Восеньняе ворыва + веснавая пераворка . . . . . . . | 71,6 | 67,7 | + 6.2 | 110 |
| 4. | Лушчэньне + восеньняя пераворка . . . . . . . | 76,3 | 76,3 | + 14,8 | 124 |
| 5. | Лушчэньне + веснавая пераворка . . . . . . . | 91,4 | 71,6 | + 10,1 | 116 |
| 6. | Лушчэньне + восеньняя + веснавая пераворка . . . . . | 82,5 | 69,6 | + 8,1 | 113 |

[1]) „Працы Горацкай с-г. дасьледчай станцыі" за 1924-26 г. Т. II артыкул проф. С. В. Скандракова.

Як відаць з прыведзенай табліцы, лушчэньне зьяўляецца мэтазгодным і надзвычайна карысным спосабам апрацоўкі глебы ў нашых беларускіх умовах. Найлепшы вынік па зерню атрымаўся пры лушчэньні + восеньняе пераворваньне (76.3). Лушчэньне з веснавым ворывам хоць дало трохі менш зярнят (71.6), затое значна павялічыўся ураджай саломы (91,4). З гэтай табліцы выяўляецца яшчэ адно вельмі цікавае зьявішча, што ворыва восеньню і пераворка гэтага поля вясною, а так сама лушчэньне з пераворкай восеньню і яшчэ раз вясною, бывае зусім не мэтазгодным, як з практычнага, так і з эканамічнага боку.

Такім чынам на падставе прыведзеных прыкладаў можна бачыць, што ў гаспадара ёсьць пад рукамі вельмі просты, досыць танны і верны сродак да павялічэньня ўраджаю яго палеткаў—гэта *пажніўнае лушчэньне*. Правільны і своечасовы спосаб апрацоўкі глебы можа значна падвышаць ураджай (па дадзеным дасьледчага поля Ціміразеўскай с-г. Акадэміі на 36 пудоў, па даным Горацкай с-г. дасьледчай станцыі 14,8 пуд.). Нам патрэбна ў поўнай меры скарыстоўваць вынікі нашых дасьледчых устаноў і ўжываць іх дасягненьні ў сваіх гаспадарках.

Лушчыць глебу можна самым звычайным сялянскім плужком, устанавіўшы яго на глыбіню $1^1/_2$ вяршкі, але праца такім спосабам вытвараецца хоць і лёгка, затое вельмі няспорна і эканамічна нявыгадна. Для гэтай мэты карысна ўжываць так званыя, *лушчыльнікі*, многасашніковыя плугі (2-х, 3-х, 4-х). Каштуе такі плуг ад 15 да 40 рублёў. З прычыны таго, што такую прыладу бывае не пад сілу набыць аднаму гаспадару, акрамя таго і ня выгадна, пры няпоўным яе скарыстаньні ў гаспадарцы, гэта задача надзвычайна лёгка можа быць вырашана пры аб'яднаньні некалькіх гаспадароў (2, 3, 5), з мэтаю набыцьця гэтае прылады. Пры каляктыўным скарыстаньні лушчыльніка, яго кошт можа быць зьвернутым у адно лета. Калі дзе ёсьць блізка машынапракатны пункт, дык можна скарыстаць і гэту мажлівасьць, бяручы лушчыльнік у часовае карыстаньне. Ва ўсякім разе мы павінны імкнуцца да таго, каб ні воднага дня поле не заставалася ня лушчаным пасьля зжыну азімых. Кожны прапушчаны бяз лушчэньня дзень зьяўляецца пэўнай стратай ў гаспадарцы.



4-х сашніковы лушчыльнік.

А. Савельляў

(Горкі, с-г. Акадэмія)

# Калі лепш ачышчаць насеньне.

Па маёй думцы ачышчаць насеньне лепш восеньню, а не вясною, як звычайна робіцца ў вёсках. Увосень кожны селянін пасьля абмалоту ўсё сваё зярно разьмяркоўвае наступным чынам: частку зярна, толькі крыху адлучанага ад пылу і мякіны, прадае на неабходныя выдаткі, частку накіроўвае ў млын, а рэшту, такое-ж не сартаванае, застаўляе да вясны, частка якога потым пойдзе на насеньне. Пабачым, што ад гэтага атрымліваецца.

Па-перш, за неачышчанае зярно селяніну плацяць мала грошай, таму, што зярно ня зусім апрацована і яго трэба яшчэ прапусьціць

праз сартавальныя машыны ў каапэратыве, які купіў збожжа. Машыны каапэратыву трэба купіць, а потым наняць працаўнікоў, каб яны ачысьцілі зярно на гэтых машынах. Усё гэта каштуе шмат грошай, якія называюцца накладнымі выдаткамі. Зусім будзе іншая справа, калі селянін усю гэту працу зробіць непасрэдна сам, усё сваё зярно прапусьціць праз агранамічныя, саўхозкія і іншыя зярняачышчальныя машыны, калі іх няма ў гаспадарцы. Калі зярно будзе добрае, дык за яго заплоцяць даражэй. Ад гэтага будзе карысьць селяніну і дзяржаве: селяніну ў тым, што ён за сваё зярно возьме некалькі больш грошай, а дзяржаве, што на рынку будзе добрае зярно.

Падругое, увосень селянін і добрае і кепскае зярно разам вязе ў млын і меле на харчаваньне. Гэтак селянін працягвае ўсю зіму і вясну. Па маёй думцы гэтак рабіць не мэтазгодна, і вось чаму: папершае, калі-б зярно ачысьціць увосень, дык было-б два гатункі зярна: добрае і кепскае. Кепскае зярно патрэбна накіраваць для размолу ў корм жывёле, а добрае змалоць для свайго харчаваньня і магчыма частку прадаць і г. д.

Далей, патрэйцяе: кожны селянін некаторую частку зярна хавае на насеньне, а калі ён яго не ачысьціў, а захаваў разам і добрае і кепскае, дык кепскае зярно, пыл, псуе добрае, а потым яго псуюць і мышы. У такім становішчы збожжа знаходзіцца да самай вясны. Вясною кожны селянін павінен яго вязьці для ачысткі. Пры гэтым здараюцца такія выпадкі: прывёз селянін зярно на зерняачышчальны пункт ачысьціў; аграном яму кажа, што „вось гэтым зярном, пазадкамі, сеяць нельга, бо яно папсуе глебу“. А селянін яму адказвае: „прабачайце дзядзенька, мне няма больш чым сеяць, ня хопіць аднаго лепшага“ і давай заграбаць добрае і кепскае зярно разам у адзін мяшок, (гэты выпадак быў на агранамічным пункце Сенькава, Горацкага раёну, не адзін раз). Мне думаецца, што такіх выпадкаў ёсьць шмат і ў другіх мясцох. Аб чым гэта сьведчыць. Гэта сьведчыць аб тым, што патрэбна ачышчаць восеньню, тагды гэтакіх зьявішч больш наглядацца ня будзе. Патрэбную колькасьць зярна на насеньне, самага лепшага, добра ачышчанага неабходна выдзеліць восеньню. Тое зярно, якое селянін застаўляе на насеньне, ён павінен добра захаваць у такім месцы, каб ня было ніякіх дзірак, праз якія маглі-б пралезьці мышы. А каб мышы не псавалі яго зьверху, трэба насеннае зярно засыпаць, хаця-б на паўвяршка таўшчыні попелам, а таксама магчыма засыпаць сухою мятаю. Як попелу, гэтак і мяты мышы надта баяцца і шкодзіць зярна ні ў якім разе ня будуць. Мая думка ўзята з вопыту, які я дабыў у камуне „Красная Заря“, Горацкага раёну, на працягу 3-х год; вынікі гэтага вопыту былі добрыя.

Маю надзею на тое, што маю думку падтрымаюць усе аграномы, асабліва грамадзкая агранамія, якая павядзе рашучую барацьбу за тое, каб растлумачыць аб неабходнасьці ўсё зярно наогул ачышчаць увосень. Гэта дапаможа палепшыць матар‘яльнае становішча селяніна, а таксама падняць якасьць рынку.

**Голікаў.**

---

# ЖЫВЁЛАГАДОЎЛЯ



## Калгасы—гнёзды племянной жывёлагадоўлі.

Дробныя сялянскія гаспадаркі стаяць перад пытаньнем, як пры наліччы аднае каровы наладзіць масавую племяную жывёлагадоўлю, перабудаваць яе ў больш прадукцыйную, таварную.

Гэта пытаньне можа быць вырашана толькі пры пераходзе да ўбуйненых, абагульненых форм гаспадарваньня. Трэба ўтварыць вялікія стады, каб не займацца паасобку з аднэй жывёлінай,—утварыць адзін хлеў, каб наладзіць догляды па навуковаму і, урэшце, утварыць адзін агульны для ўсіх зацікаўленых плян працы. Усё гэта можна выканаць толькі ў каляктыўных гаспадарках, або ў буйных, як саўгасы і г. д.

Лік саўгасаў ня можа хутка павялічвацца, а лік калгасаў с цягам часу пакрые усю нашу краіну. Ведаючы вялікае значэньне калгасаў, у самым пачатку іх арганізацыі трэба правільна адзначыць іх ролю і задачу адносна сучаснае жывёлагадоўлі.

Ужо шмат пісалася, што жывёлагадоўля займае ў нас усё больш самастойнае месца, пачынае рабіцца самай рыначнай і даходнай галінай. Разьвіцьцё жывёлагадоўлі залежыць ад посьпехаў каапэраваньня і калектывізацыі сваіх вытворчых сіл. Так, напрыклад, паша, вадапой, палепшаньне сенажацяй, закладка штучных пасьвішчаў, асабліва для маладняку, мэліорацыя, грамадзкая барацьба і папярэджваньне хваробы жывёлы, грамадзкія злучпункты, выбар і збыт прадуктаў—усё гэта можа адчыніць новыя шляхі перад сялянскай гаспадаркай.

Вось каляктывы, г. зн. калгасы і павінны адыграць ролю арганізатара каляктыўных ячэек па жывёлагадоўлі. Яны ў сучасны момант набываюць асаблівае значэньне, бо наш край востра адчувае патрэбу ў добрай палепшанай скаціне, якая-б давала высокую прадукцыйнасьць і каштоўны племяны маладняк.

Завесьці з іншых краін патрэбную масу племяной жывёлы нельга, бо гэта надта дорага каштуе, ды і добрая скаціна можа не падыйсьці да нашых умоў, да нашых парадкаў. Мы самі зможам вырасьціць значны лік племяной жывёлы пры ўмове наладжанай арганізацыі. З чаго-ж зараз пачынаць?

Кожнаму калгасу трэба высьвятліць, на падставе умоў свае гаспадаркі, чым заняцца ў жывёлагадоўлі. У залежнасьці ад рынку, ад шляхоў зносін, ад глебы, ад абсталяваньня, ад падбору людзей, кожны калгас вырашае сваё заданьне па свойму. Але напэўна адно, што да малочнае жывёлагадоўлі са збытам малака, масла ці сыру

большая частка калгасаў можа і павінна прыступіць. А прыступіўшы да гэтага, зараз-жа трэба закладваць каляктыўныя хлявы, каляктыўныя стады і каляктыўную працу па разьвядзеньню добрае малочнае скаціны, па пэўнаму пляну і па ўсім запатрабаваньням рацыянальнае завадзкой племяной працы. У выніку адсутнасьці ў калгасаў патрэбных ведаў, бедных, наогул, пакуль што кваліфікаванымі жывёлаводамі, няма ў калгасах яшчэ чыста каляктыўных хлявоў і стадаў. У большасьці выпадкаў у каляктывах кожны лічыцца ўласьнікам сваёй скаціны, якую сам і мусіць даглядаць. Гэта зусім не адпавядае стаячым перад калгасамі задачам, і гэта неразуменьне калгасамі свае карысьці хутка будзе зьністожана. Перад кожным калгасам, які ня сёньня, дык заўтра закладзе каляктыўны хлеў і стада, паўстане пытаньне, які-ж напрамак племяной працы ўзяць, з чаго пачаць. Блытаніна, якая існавала ў нас да гэтага часу адносна выбару племяной жывёлы і выбару пароды, можа і ў калгасах пацягнуць безплянавасьць ці хістаньні і блытаніну. Згодна пляну НКЗему ў малочнай жывёлагадоўлі, высоўвалася неабходнасьць разьмеркаваньня мерапрыемстваў па гнёздам ці раёнам, маючым усе дадзеныя для больш хуткага ажыцьцяўленьня перабудовы сельскай гаспадаркі.

Кожнае гняздо ці раён павінен быць абсьледван, каб устанавіць напрамак працы, а потым канцэнтраваць у сябе ўсе формы грамадзкай сьвядомай сялянскай дзейнасьці. Для вырашэньня, якая маецца ў паасобных гнёздах малочная скаціна, якіх яна якасьцей, якой яна пароды,— намячалася правесьці абсьледваньне жывёлаводзтва.

Але некаторыя раёны, не чакаючы складанага абсьледваньня, папраўлялі сваю племяную працу па лініі ўсяго лепшага, прадукцыйнага, што мелася сярод мясцовага быдла, не зважаючы на дробязі, ня робячы розьніцы па масьці, па пародзе ці па ўзнадворных адзнаках: бралася ўсё добрае з пэўнымі гаспадарчымі якасьцямі. Так, у Самахвалавіцкім раёне, Менскай акр., урадавыя племгаспадаркі „Калініна“ і „Саюз сялян гадаўцоў чырвонага беларускага быдла“ распачалі працу па разьвядзеньню ў сваім гнязьдзе малочнага быдла з падборам і згодна пляну.

Некаторыя камунальна-малочныя таварыствы па Віцебшчыне ўзяліся за мясцовую ангельскую малочную скаціну, у Мазыршчыне—за Нямецкую каланістскую; у Магілеўшчыне за мэтысаў-швіцаў, а ў некаторых раёнах проста за добрую малочную карову.

У 1928-29 г. будзе праведзена Навукова-Дасьледчым Інстытутам імя Леніна абсьледваньне жывёлаводзтва БССР, пасьля якога большасьць саўгасаў і калгасаў атрымаюць яскравы адказ за якую малочную карову брацца і чым сваю скаціну паляпшаць.

З гэтага часу калгасы павінны арганізаваць свае каляктыўныя стады з найлепшых малочных кароў свайго раённага быдла і павесьці разьвядзеньне племяных стадаў.

Вывучаючы і адбіраючы кароў свайго стада, калгасы будуць утвараць каштоўныя завадзкія племяныя стады, ад якіх будзе атрымлівацца шмат каштоўных цялят. Гадоўляй бычкоў ад лепшых матачных кароў, будзе аказана найлепшая дапамога сялянству, бо гэтым будзе дадзен магутны сродак палепшаньня сялянскага быдла.

Строгая бракоўка і падбор малочных кароў на падставе кантролю іх малочнасьці, зробіць калгасы гнёздамі племяной працы. Сувязь з сялянствам і агульная заводзкая праца яшчэ больш адзначыць гэтую

ролю калгасаў. Калгасы скарыстаюць усе свае арганізацыйныя і гаспадарчыя асаблівасьці і переваґі для правільнага вырошчваньня маладняку, як для паляпшэньня сваіх стадаў, так і сялянскіх.

Паасобныя дробныя сялянскія гаспадаркі, зьліваючыся ў буйныя каляктыўныя, выявяць і ў гэтым сваю магутнасьць. Каляктывізацыя стада дасьць мажлівасьць паставіць вялікае стада у 300-400 галоў у адпаведныя ўмовы. Каляктыўны хлеў зробіць тое, што ні водная праца, ні водная частка корму, ніводная дробязь догляду ўтрыманьня і кармленьня скаціны не застанецца без увагі і вучоту з боку кіраўнікоў каляктыву. Ніводная дробязь ня пройдзе без меркаваньня на падставе практыкі і навукі. Ніякая вёска з тым-жа лікам кароў у сваім стадзе ня зможа забясьпечыць нашай жывёлагадоўлі патрэбнымі культурнымі спосабамі догляду і гадоўлі.

Вядома ўсім як у вёсцы цяжка арганізаваць быччае таварыства; набыць і выкарыстаць бугая, як мала яшчэ вучоту ў сялянскай жывёлагадоўлі.

У выніку гэтага каапэрыруючая вёска вельмі зацікаўлена ў хуткім стварэньні калгасаў, якія возьмуцца за ўдзячную, карысную, вельмі патрэбную, культурную справу наладжваньня племяной справы па раёнах нашае краіны.

**П. Ластоўскі.**

---

# Чаму жывёле неабходны сьвежы зялёны корм.

Тое, што кожнай жывёле, нават птушцы патрэбен зялёны корм (трава, паша і г. д.)—аб гэтым ведае кожны гаспадар. Усё роўна як і тое, вядома кожнаму, што малако ад кароў і іншай жывёлы, што ходзяць па пашы, заўсёды лепшае і нават здаравейшае. Так,—усё гэта кожнаму вядома. Але ў чым тут справа, і ці варта зьвяртаць гаспадару на сьвежы зялёны корм (на зеляніну) асаблівую ўвагу,—пэўна-ж што ня кожны ведае.

Між тым, як паказвае практыка і зусім цьвёрда даводзіць навука, значэньне зялёнага корму ў целе жывёлы (таксама як і рознай сырызны для чалавека) настолькі вялізарнае і настолькі каштоўнае, што нам, калі мы хочам мець жывёлу здаравейшаю і атрымоўваць ад яе больш зыску і карысьці, ведаць аб гэтым—і нават добра ведаць—неабходна.

Галоўнае, чаму нас павінна цікавіць зеляніна як важны дадатак да корму, гэта тое, што ў кожнай зеляніне пажыўныя матар'ялы зьмешчаны найлепшым для аджыўленьня чынам, яны лёгка ўваходзяць у цела жывёлы і лёгка папаўняюць у ім штодзённыя страты. Але гэта яшчэ ня ўсё. Найбольш важнае ў кожнай зеляніне тое, што яна зьмяшчае ў сабе значны запас асобных *„дадатковых матар'ялаў"*, без якіх жыцьцё арганізму робіцца немагчымым. Жывёла бяз гэтых *„дадатковых матар'ялаў"* адчувае сябе дрэнна, ня гледзячы на добры сухі корм, яна слабее і наогул робіцца кволаю. Гэта кожны можа заўважыць на сваёй жывёле пад вясну, калі жывёла прастаіць праз усю зіму ў хляве на сухім корме, нават і пры добрым харчы.

Нам, вэтэрынарам, больш чым каму вядома, што ўяўляе сабою жывёла ў канцы зімы, пад вясну, калі лячэбніцы перапаўняюцца

хворымі на розныя ўнутраныя хваробы, асабліва на хваробу органаў траўленьня, галоўным чынам кішак. Трудна пералічыць нават тыя розныя занядужаньні, якія складаюць цэлую групу „веснавых“ хвароб у жывёлы. Сьмела можна сказаць, што рэдкая жывёла ў нас выходзіць з зімы зусім здароваю, незакатаранаю: то ў яе бурчыць у жываце, то яе развальняе, то яе лёгка хапае жывот (як колікі ў коняй) і інш. А колькі жывёлы прападае пад вясну, не дачакаўшыся травы? Калі падлічыць, колькі ў нас жывёлы прападае ад розных хвароб у канцы зімы і ў пачатку вясны, дык убачым, што да якіх 40-45 проц. з іх гіне ад хвароб органаў траўленьня.

На што гэта паказвае, як не на тое, што вялізарны процант страты жывёлы непасрэдна залежыць ад зімовага (выключна сухога) корму. Ды і што гаварыць аб нас, вэтэрынарах. А ці ня ведае кожны гаспадар і ці не спадзяецца ён часта на тое, што занядужаўшая ў яго жывёла паправіцца як толькі выйдзе на траву?

А аб чым гэта гаворыць, як не аб тым, што трава (наогул зяляніна) мае ў сабе нешта такое, што аджыўляе нават у тых выпадках, калі ніякае аптэчнае лякарства ня можа дапамагчы жывёле?!

А ці не назіраў кожны з нас, як жывёла, нават сытая, ляціць першы раз выпушчаная з хлява ў поле і прагавіта хапаецца за траву?.. Можа хто і падумае, што прыскучыць жывёле стаяць на адым месцы праз доўгую зіму, дык яна таму і рвецца ў поле. Не без таго, зразумела, што разьмяцца—гэта натуральная фізыёлёгічная патрэба кожнага організму. Але тут справа іншая—тут мы маем патрэбу ў жывёлы папоўніць тое, чаго яна была пазбаўлена на працягу доўгага зімовага паўгоду,—патрэбу да зяляніны, якою жывёла прагавіта імкнецца задаволіцца. Таксама і ня ў тым яшчэ справа, што пад вясну харчу для жывёлы ў нас звычайна не стае.

Навука зараз цьвёрда ўстанавіла і даводзіць, што пры недахопе ў корме *„дадатковых матар'ялаў“*, альбо як іх у навуцы празываюць *„вітамінаў“* нарушаецца рост арганізму, замаруджваецца падзел каморак у целе, абніжаецца прысваеньне арганізмам пажыўных матар'ялаў і неарганічных соляй, асабліва кальцыя (вапняку), слабее выдзяленьне стравальных сокаў у жалудку, *паўстае катар розных органаў*, абніжаецца *адпорнасьць арганізму супроць мікробаў* і, нарэшце, паўстаюць розныя *хваробы абмену матэрыі* ў арганізме, як ангельская хвароба або рахіт (пакрывеньне костак), гнілец (цынга) і інш., нават запладненьне пры гэтым абніжаецца і г. д.

У гэтым сэнсе сьвежы зялёны корм і нават захованы зялёным на зіму (так зв. „сілос“) мае вялікае значэньне для жывёлы. Недарма адзін вучоны аб сьвежым зялёным корме выказваецца так, што „прагавітасьць да сьвежага корму захавала жыцьцё большай колькасьці жывёлы, чым яе было зьністожана мікробамі“ (ад заразьлівых хвароб).

Ну, а хто ня ведае, якую каштоўнасьць мае малако ўлетку, у параўнаўнаньні з зімовым. Напрыклад, па назіраньнях некаторых вучоных выходзіць, што адна лыжка летняга малака па пажыўнасьці адпавядае за 7 лыжак зімога малака ад кароў, якія стаяць на сухім корме. Альбо хто ня ведае, што цяля ці парася, якое сьсе матку ўлетку, калі яна ходзіць па траве, дык бывае здаравейшае, менш хварэе і скарэй расьце. Нават куры і тыя нясуць больш пажыўныя для людзей яйкі, больш багатыя „вітамінамі“, калі ходзяць улетку па траве. І шмат яшчэ розных цікавых прыкладаў перавагі сьвежага зялёнага корму як

для жывёлы, так і для чалавека праз жывёлавыя прадукты, можна было-б прывесьці, але ня гэтае нас зараз цікавіць.

Нам неабходна зараз адказаць на адно асноўнае пытаньне, якое павінна паўстаць у кожнага, хто над гэтым задумаецца: як-жа захаваць траву, ці картафлянік, ці, скажам канюшыну, ці які іншы расьлінны корм сьвежым зялёным на зіму?

Ці можна гэта зрабіць і як?

Ня толькі можна, *але і неабходна.* Уся Эўропа і Амэрыка зараз ня корміць сваю жывёлу зімою іначай, як дадаючы да сухога корму захованы „зялёны“ корм у выглядзе так зв. „сіласаванага“ корму. Зараз спосабы захоўваньня сьвежага зялёнага корму на зіму настолькі распрацованы і нагэтулькі простыя, што толькі лянівы, альбо той, хто аб „сіласаваньні“ корму нічога ня чуў, не бярэцца за гэтую карысную з усіх бакоў справу.

Аб тым, як прыступіцца да гэтай справы, кожны можа даведацца ад кожнага жывёлавода, агранома наогул, і ў рэдацыі „Плуг“. А якую карысьць ад кармленьня жывёлы з дапамогаю „сіласаванага“ корму можна атрымаць,—кожны пераканаецца на ўласным прыкладзе ў бліжэйшы час, калі спрабуе ўзяцца сумленна за гэтую справу.

Мала таго. Неабходнасьць для кожнага гаспадара лічыцца з недахватам у рацыёне жывёлы „*дадатковых матар‘ялаў*“ (альбо „*вітамінаў*“) выцякае ня толькі з меркаваньня чыста гаспадарчых і ўласных, але і зьяўляецца яго *грамадзкім абавязкам,* наколькі прадукты жывёлінага пахаджэньня павінны адпавядаць запатрабаваньням рынку, на поўнакаштоўныя і здаровыя (гігіенічныя) прадукты пажывы для насельніцтва.

Дык будуйце кожны ў сябе сіласы.

Хутчэй навучайцеся захоўваць зялёны корм на зіму і кармеце сваю жывёлу сіласам.

Дацэнт **І. М. Серада.**

(Горкі—Акадэмія)

---

# Як пабудаваць сілас.

*Сіласаваны корм мае для гаспадаркі вялікае значэньне,* як аб гэтым пісалася ў часопісі „Плуг“ № 6, 1928 г. У гэтым артыкуле будзе апісана як пабудаваць сіласы ў гаспадарках.

Ад будуемых сіласаў трэба вымагацца, каб яны былі прыгодны для процэсаў бражэньня. Пры розных спосабах сіласаваньня гэтыя вымаганьні розныя. Аднак гаспадар павінен так будаваць свой сілас, каб ён падыходзіў для халоднага сіласаваньня. Сілас, прыстасованы для халоднага сіласаваньня, зусім лёгка можа быць прыстасованы і для іншых спосабаў сіласаваньня.

Ад добрага сіласу пры халодным сіласаваньні вымагаецца:

1. Каб сілас быў зусім непрапушчальны для вады і паветра.
2. Трэба, каб моцнасьць сьценак сіласу выносіла даўленьне корму.
3. Сьценкі сіласу павінны быць гладкія бяз рубцоў, каб трэньне між сьценкамі і кормам было па мажлівасьці меншае, гэта неабходна для правільнага асяданьня корму.
4. Сілас павінен быць так пабудованы, каб у ім корм ня мог замерзнуць.
5. Трэба, каб глеба і сьценкі, пры наступленьні бражэньня, былі даволі ўстойлівы супроць кіслот.

6. У сіласе не павінна быць вострых вуглоў, бо ў іх застаецца заўсёды вельмі шмат паветра, ад якога псуецца корм. Сілас павінен быць круглым, авальным, чатырох—ці больш кантовым.

7. Сілас павінен мець параўнальна малую паверхню, каб лепш было дасягнуць анаэробнага стасунку закрываючы яго зьверху. Гэта-ж дае мажлівасьць і лепшай утрамбоўкі сіласу ўласнай цяжарай і інш.

8. Каб у сілас не заходзіла вада, дождж і іншае, над ім трэба абавязкова пабудаваць дах.

Далей пяройдзем да разгляду запатрабаваньняў гаспадарчай практыкі для сіласу.

Прыводзім перш за ўсё патрэбныя даныя для разьмеру сіласу на той ці іншы склад жывёлы. Вага сіласу хістаецца ў залежнасьці ад расьлін, утрамбоўкі і г. д., а менавіта 550—1000 кілёграм у куб. мэтры. У сярэднім трэба лічыць 800 кгр. у 1 кб. мэтры гатовага сіласу. Аднэй карове трэба 20 кгр. сіласу ў дзень. Два кані патрабуюць столькі, колькі адна карова альбо тры маладыя падцёлкі. Шэсьць сьвіней, коз ці авец таксама раўняюцца аднэй карове. На 200 зімовых дзён патрэбна на карову 4000 кр. сіласу. Адзін кб. мэтр сіласу важыць у сярэднім 800 кр., значыць, на адну карову патрэбна 5 кб. мэтраў гатовага сіласу. Гэтыя разьлікі ёсьць сярэднія. У Амэрыцы яны падвышаюцца прыблізна на $^1/_4$ ад усяго неабходнага сіласу.

Гаспадарчыя запатрабаваньні сіласу азначаюцца ўжо ня спосабамі сіласаваньня, а велічынёю сіласаў, іх формай і адлегласьцю ад скотнага двара. Запатрабаваньні практыкі да сіласаў лепш за ўсё разглядаць разам з працамі, якія ўтвараюцца пры сіласаваньні. Разгляд будзем весьці пры халодным сіласаваньні. Скошаны корм павінен быць адразу перавезены ў сілас з поля. Для яго дастаўкі патрэбны добрыя ўмовы. Для гэтага сілас павінен быць з добрым пад'ездам і быць нявысокім. Патрэбна, каб у сілас не змаглі пранікаць грунтовыя воды. Калі сілас мае агульную вышыню ня больш трох мэтраў, тады яго лёгка напаўняць. Пры больш высокім сіласе ўжо патрэбна мець машыны для пад'ёму корму. Для лёгкага напаўненьня сіласаў іх лепш усяго будаваць на адкоснай зямлі, каб можна было іх напаўняць з горкі, а вымаць з нізу. Для выемкі корму з звычайнага высокага сіласу, патрэбен элеватар. У сіласе корм павінен быць роўна насыпаны і ўтрамбованы, дзякуючы чаму там павінна вольна зьмяшчацца некалькі рабочых. Яшчэ лепш утрамбоўваць корм у сіласе жывёлай—быкамі ці коньмі. Гэта лепш усяго рабіць тады, калі сьценкі сіласу будуць круглымі. На практыцы бываюць сіласы 5 м.$\times$5 мэтраў, але будуюць і 4,0$\times$4,0 м. Калі сіласы круглыя, то такія сіласы ў дыямэтры маюць каля 5 мэтраў. Калі корм будзе зусім гатовы, то трэба яго вымаць з такім разрахункам, каб ён быў па мажлівасьці менш на паветры і ад гэтага не псаваўся. Заўсёды патрэбна корм вымаць жывёле з сіласу кожны дзень і абавязкова пасьля выемкі сілас зачыняць. У сілас (па Генкелю) паветра за суткі пранікае на 10 см., чаму такі слой і трэба вымаць кожны дзень для скарыстаньня жывёлай. Амэрыканцы лічаць, што ў халодную пагоду ў сіласаваны корм пранікае надворнае паветра на 1-2 дзюймы, а ў цёплую на 3 дзюймы (7,6 см.). Калі скармліваць у дзень жывёлаю 20 кгр. сіласу, прымаючы уд. вагу яго 0,8, будзем мець пры глыбіні 10 см. неабходнасьць паверхні 0,25 кв. м. на карову, ці 1 кв. м. адпавядае 4 галовам быдла. На 200 дзён вышыня сіласу неабходна будзе 200$\times$20=20 мэтраў. Гэткая вы-

шыня вельмі вялікая, чаму на практыцы лічаць даволі 5 см глыбіні для выемкі корму на кожны дзень; значыць, вышыня сіласу павінна быць каля 10 мэтраў. Амэрыканскія разрахункі будуць такія, што вышыня сіласу павінна быць каля 9 м. Амэрыканцы лічаць, што ў дзень трэба вымаць 2 цалі, а ў 180 дзён 30 ам. футаў (каля 9 м.). Такая вышыня ў Амэрыцы і прынята як сярэдняя. Самая высокая вежа для сіласу ў Амэрыцы будзе 26 м. У Нямеччыне, каб не будаваць высокіх сіласаў, у якія без машыны досыць трудна напаўняць корм і таксама вымаць яго, будуюць сіласы па 5 м. вышынёю, два, побач адзін каля другога. Часта строяць і тры сіласы, тады яны маюць вышыню 3,3 м. і забясьпечваюць жывёлу на цэлую зіму. Пры такіх сіласах іх лягчэй паасобна зразу напаўняць, а таксама і лягчэй вымаць. Нізкія сіласы каштуюць таней за высокія вежы і яны даюць куды больш зручнасьці. У такіх сіласах менш рызыкі ад траты спажыўное матэрыі, бо калі і будуць вялікія траты ў аднэи якой яме, то ўсё-ж не ўсяго сіласу. Калі сілас пабудованы ў зямлі, то з яго досыць лёгка вымаць корм калі ён ня глыбей 2,5—3,0 мэтраў. Пры больш глыбокіх сіласах ужо патрэбна будаваць памост і спачатку класьці корм на яго, а потым даставаць яго наружу. Калі сілас глыбокі, каля 10 мэтраў, то з яго вымаць корм вельмі цяжка. Тут, акрамя тэхнічнае цяжкасьці, яшчэ дабаўляецца і тое, што ў такой глыбіні поўна вуглекіслаты і рабочыя ня могуць там працаваць, дзякуючы цяжкасьці паветра. Пры глыбіні сіласу на 4—6 мэтраў, цяжкасьці менш пры выемцы.

Лепш будаваць некалькі ям, тады іх лягчэй напаўняць і выгружаць. Такія ямы будуюцца поруч 2-3 штукі.

Ніжэй прыводзім табліцу разьлікаў велічыні сіласаў на розную колькасьць жывёлы, як чатырох кантовых, так і круглых.

| Разьмер бакоў | 4-хкантовы сілас. Плошча | Лік ям | Глыбіня | Аб'ём | Годна для штук быдла | Круглы сілас. Дыямэтр | Лік ям | Глыбіня | Аб'ём | Годна для штук быдла |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| · 1,0.1,5 | 1,5 | 3 | 3,0 | 13,5 | 2— 3 | 1,5 | 3 | 3,0 | 15,93 | 2— 3 |
| 1,5.2,0 | 3,0 | 3 | 3,3 | 29,7 | 5— 6 | 2,3 | 3 | 3,3 | 41,08 | 8— 9 |
| 2,0.2,5 | 5,0 | 3 | 3,3 | 49,5 | 9—10 | 2,8 | 3 | 3,3 | 60,98 | 11—12 |
| 2,5.3,0 | 7,5 | 3 | 3,3 | 74,2 | 13—15 | 3,3 | 3 | 3,3 | 84,64 | 16—17 |
| 3,0.3,5 | 10,5 | 3 | 3,3 | 103,9 | 19—21 | 3,8 | 3 | 3,3 | 112,27 | 21—22 |
| 3,5.3,5 | 12,25 | 3 | 3,3 | 121,1 | 22—25 | 4,0 | 3 | 3,3 | 124,34 | 24—25 |
| 4,0.4,0 | 16,0 | 3 | 3,3 | 158,4 | 29—32 | 4,5 | 2 | 5,0 | 159,00 | 30—32 |
| 4,0.4,0 | 16,0 | 5 | 5,0 | 400,0 | 78—80 | 5,0 | 1 | 9,0 | 176,67 | 35—36 |

Ведаючы, колькі жывёле патрэбна сіласованага корму на зіму, яго ўдзельную вагу—лёгка разьлічыць патрэбны разьмер сіласаў.

Што датычыцца да месца пабудовы сіласу, то лепш за ўсё яго будаваць блізка каля аборы таму, што сіласованы корм вельмі цяжкі

і дастаўляць яго ў абору жывёле досыць важка. Лепш усяго было-б будаваць сілас у аборы, але гэтага рабіць ня можна, бо сіласованы корм вельмі будзе пахнуць у хляве. Калі будуецца сілас у вялікай гаспадарцы, то каля яго пажадана прыбудаваць невялічкае памяшканьне, дзе, пры жаданьні, можна сіласованы корм зьмешваць з рэзкай ці з мукой і г. д. Тут таксама можна і абаграваць сілас перад скармліваньнем. Калі пры сіласе патрэбна мець сячкарню, то гэта трэба прадбачыць пры падборы месца.

З іншых прылад і асаблівасьцяў сіласу трэба адзначыць будоўлю вокан, калі вежа вельмі высокая, але ў нас высокіх вежаў ня можна будаваць з-за вялікіх марозаў узімку. Лепшымі сіласамі ў нас будуць тыя, якія пабудаваны ў зямлі. Невялікія колькасьці сіласаў можна прыгатаўляць і ў кадушках рознае велічыні.

Для будоўлі сіласаў можна скарыстоўваць, як будаўляны матар'ял: гліну, булыжнік, брут, бэтон, цэглу, гіпс, дрэва і жалеза.



Паўмасыўны сілас з цэглы.

Гліна, як будаўляны матар'ял, ужываецца і мае перавагу толькі ў тым, што яна амаль усюды бывае ў здавальняючай колькасьці і яе ня трэба прывозіць здалёк. Гліняныя сіласы могуць быць у грунце і таксама павярховыя, дзе абмазваецца глінай сьплеценае гальлё. Можна будаваць сілас і з сырцу цэглы. Гліна, як будаўляны матар'ял, уступае іншым. Цяпер яна амаль ня ўжываецца для будоўлі сіласу ў Эўропе. Для лепшай моцнасьці глінянага сіласу яго раяць абмазваць цэмэнтам. Такія сіласы, робяць галоўным чынам, у Расіі.

Булыжнік для сіласу зьяўляецца лепшым матар'ялам па трываласьці, як гліна. Ён укладваецца з глінай, ці цэмэнтам. Каменьня маюць той недахоп, што яны вельмі хутка прастываюць, чаму сярэднюю частку сіласу, пабудованага з каменьня, раяць выкладаць тонкім слоем цэглы. Шырыню сьцяны каменнага сіласу трэба рабіць каля 50 см. З сярэдзіны каменны сілас трэба прыкрыць гладкім слоем, каб корм мог раўнамерна асядаць. Гэта пакрыцьцё трэба рабіць такім матар'ялам, на які не асабліва шкодна робяць уплыў кіслоты сіласу. Для будоўлі сіласу няпрыгодны вапнавыя каменьня, вапнавы пясок ці маргель. Таксама няпрыгодны і вапнавы раствор для пакрыцьця і складкі сьцен сіласу. Самы лепшы раствор будзе 1 : 1, ці 1 : 2 цэмэнту пяску. Гэтым

растворам пакрываюць у сярэдзіне сілас прыблізна 2 см. таўшчыні. Паверхню робяць зусім гладкаю.

Для будовы сіласу добрым матар'ялам будзе бэтон, які ў сярэдзіне зьвязваецца жалезам. Такія сіласы цяпер будуюцца ўва ўсіх дзяржавах, яны ўжываюцца ў Нямеччыне, у Паўночнай Амэрыцы, Італіі, Англіі і Японіі. Яны вельмі моцны і прыгодны для ўсякіх спосабаў сіласаваньня, дрэнна прапушчаюць паветра і зусім не прапушчаюць вады, а таксама не падаюцца ўплыву кіслот, якія вытвараюцца пры сіласаваньні.

Аднак трэба адзначыць, што і цэмэнт часам псуецца і прыходзіцца праз некаторы час сілас зноў мазаць у сярэдзіне. Можна прымяняць для пакрыцьця сіласу ў сярэдзіне асобны толь ці рэдкае шкло, але гэта ўсё досыць дарагія матар'ялы.



Драўляны сілас.

Для будоўлі сіласу ў Нямеччыне карыстаюцца і гіпсам, але толькі такім, які прапалены пры тэмпэратуры каля 1000° С. Гэты гіпс можа быць досыць добрым матар'ялам для будоўлі сіласу.

Цэгла, як будаўляны матар'ял для сіласу, мае, вялікае значэньне. Добрай якасьці цэгла можа быць з аднаго боку таннай, а з другога досыць трывалым матар'ялам. Надта поўна цагляных сіласаў поруч з бэтоннымі ёсьць у Паўночнай Амэрыцы. Цагляны сілас патрэбна ў сярэдзіне пакрыць цэмэнтам. Праф. Багаеўскі раіць для Паволжа круглы цагляны сілас—паграбок.

Дрэва таксама можа быць вельмі добрым матар'ялам для будоўлі сіласу. Такія драўляныя сіласы досыць распаўсюджаны ў Амэрыцы. Робяцца сіласы з брускоў $10 \times 10$ см. і абцягваюцца 4 жалезнымі абручамі 10—20 см. шырыні. У залежнасьці ад матар'ялу, яны могуць служыць 5-10-20 гадоў і больш. Дрэва, як матар'ял для будоўлі сіласу, досыць добры.

Жалеза, хаця і зьяўляецца добрым матар'ялам для сіласу, але яно надта дорага каштуе. Каб не разьядалі кіслоты жалезнага сіласу, яно з сярэдзіны ацынкоўваецца.

Для Беларусі будаўляныя матар'ялы, якія адпавядаюць запатрабаваньням тэхнікі сіласаваньня і танна каштуюць, будуць мець значэньне цэгла і дрэва.

С. Журык.

---

# Барацьба з хваробамі жывёлы каляктыўнымі сіламі вёскі.

У барацьбе з рознымі хваробамі хатняе жывёлы шмат што могуць зрабіць каляктыўныя сілы нашай вёскі, аб'яднаўшыся ў тыя альбо іншыя арганізацыі. Сюды адносяцца, напрыклад, каапэратывы, сельскагаспадарчыя таварыствы, у асаблівасьці кантрольныя жывёлаводныя і быччыя таварыствы, кам'ячэйкі, камсамол і інш.

Што-ж могуць зрабіць гэтыя арганізацыі?

Па-першае, яны могуць узяць на сябе задачу—шляхам арганізацыі бясед і лекцый ў хатах-чытальнях з запрошаным вэтэрынарным урачом, абвясьціць усё насельніцтва даннага раёну аб формах і характару хвароб дамовай скаціны. На гэтых бяседах сяляне могуць даведацца і аб усіх сродках барацьбы з гэтымі хваробамі.

Па-другое, вышэйпамянёныя арганізацыі могуць арганізаваным шляхам весьці барацьбу з хваробамі хатняе жывёлы. Так, каб не разнасілася зараза, яны могуць пабудаваць па ўсім правілам навукі могілкі для жывёлы, куды-б адвозіліся трупы паўшай жывёлы.

Яны могуць з ведама вэтэрынарнага ўрача выдаць правілы па ўходу за хворай жывёлай. Гэтыя правілы ўсе павінны выконваць, пры чым тых гаспадароў, якія парушаць гэтыя правілы, можна прывесьці да адказнасьці.

Калі ў якой-небудзь мясцовасьці вельмі распаўсюджаны хваробы авечак, якія залежаць, галоўным чынам, ад сырой пашы, сельска-гаспадарчыя ці жывёлаводныя таварыствы могуць узбудзіць сярод сялян пытаньне аб асушцы гэтай пашы і адпусьціць дзеля гэтага (узаемна) некаторую суму з сваіх касаў.

У выпадку зьяўленьня пошасных хвароб сярод жывёлы, гэтыя арганізацыі сваімі каляктыўнымі сіламі лягчэй усяго могуць весьці з імі барацьбу і іх сябры хутчэй усяго могуць запрасіць вэтэрынара, хутчэй усяго могуць закупіць на агульныя сродкі тыя ці іншыя лекі і інструмэнты, купіць кнігі па хваробам скаціны, арганізаваць агульны карантын для хворай жывёлы і арганізаваць лекцыю, ці бяседу з вэт. урачом сярод сваіх сяброў і г. д.

Шмат што можа зрабіць па барацьбе з хваробамі скаціны найбольш энэргічная і маладая арганізацыя, як камсамол. У часе павальных падзяжоў, яна можа ўстанавіць сталае дзяжурства сваіх сяброў на вёсцы, ці ў цэлым шэрагу вёсак для назіраньня за вывазам паўшай жывёлы, за ўсімі захоўваючымі супроць захвараваньня мерамі, за выкананьнем правілаў вэтэрынарнага нагляду, за сталаю сувязьзю паміж насельніцтвам і вэт.урачом і г.д. Адным словам, усе каляктыўныя вясковыя арганізацыі, аб'яднаўшыся, маглі-б правесьці ў жыцьцё наступны плян барацьбы з хваробамі жывёлы:

1) Арганізацыя лекцыі і бясед з вэт. урачом сярод акружаючага насельніцтва аб хваробах скаціны.

2. Правядзеньне мер прадахоўваючага характару: пабудова скоцкіх магільнікаў, ачыстка памяшканьняў, дэзынфэкцыя іх, закупка і разьмеркаваньне сярод насельніцтва розных прадахоўваючых сродкаў—захоўваньне ўсіх правілаў вэтэрынарнага нагляду, рэгулярны ад часу да часу абход сялянскіх двароў і дача тут тых ці іншых паказаньняў і г. д.

У часе хваробы—сталая сувязь з вэтэрынарам, назіраньне за паражонымі дварамі, вываз паўшай скаціны, назіраньне за рухам хваробы, раздача насельніцтву мэдыкамэнтаў, дача паказаньняў—як лячыць захварэўшую скаціну і інш.

Дзеля правядзеньня ў жыцьцё ўсіх вышэй памянёных мерапрыемстваў, вясковыя каляктыўныя арганізацыі на агульным сходзе выбіраюць упаўнаважаных асоб (вэтэрынарных апякуноў), якія і павінны сачыць за ўсімі мерапрыемствамі па барацьбе з хваробамі скаціны.

Калі на барацьбу з хваробамі жывёлы выступяць усе вясковыя каляктыўныя сілы, тады ніякая хвароба сяляніну ня будзе страшнай.

У аб'яднаньні—магутнасьць.

Вэтэрынарны ўрач **М Жарын**.

## Праслухалі курсы—залажылі досьледы.

Завочныя курсы, якія друкаваліся ў часопісі „Плуг“ для сялян па сельскай гаспадарцы, наш В.—Крушнаўскі гурток дзеталёва прапрацаваў на сваіх занятках, якім адводзілася 1—2 гадзіны ў тыдзень. Друкуемыя лекцыі ў часопісі спэцыялістых па сельскай гаспадарцы, значна пашырылі круг ведаў нашых селькораў па сельскай гаспадарцы. Асабліва, як дзейнічае на ўплыў ураджаю тое ці іншае мінэральнае ўгнаеньне, той або іншай культуры, што добра навочна паказана ў табліцы № 1 ст. 34—35 „Плуг“ № 3. Самыя прымітыўныя спосабы апрацоўкі глебы, пры якіх можна павялічыць ураджай: як раньнее ворыва папару, ворыва на зяб, баранаваньне азімага жыта і г. д.

Усё гэта ўсвоена і стала практычна ўжывацца цяпер нашымі селькорамі—сялянамі на сваіх палёх. Калі год таму назад нельга было знайсьці хоць адзін кармавы бурак у вёсцы, дык сёлета больш 1 дзес. пасеяна кораньплодаў. Вопытаў—досьледаў раней і ў паміне ня было, у бягучую-ж веснавую сяўбу закладзена два досьледы з ільном па тэме 5, схэма (б), з мінэральным угнаеньнем, вывучэньне занятога папару—2 досьледы, па сортаапрабаваньню—1, уплыў угнаеньня на ўраджай бульбы—1 і акрамя гэтага 21 чал. утварылі градкі з пасевам кораньплодаў.

**Я. Савіцкі.**




## Адна з прац па палепшаньню нашых лясоў.

У нашых лясох шмат прагалін, а таксама большага ці меншага разьмеру палянак (лугавін), часта сустракаюцца пусткі, а занадта рэдкіх лясоў таксама многа ў кожным раёне, лясьніцтве і г. д. Вядома, пусткі хутчэй трэба засадзіць лесам, але зараз-жа паўстае пытаньне: што рабіць з рэдкім лесам, што рабіць з прагалінамі, з ляснымі палянкамі, на якіх надта мала травы ды і такая кепская, а лес-жа на гэтых мясцох не расьце?

Зараз ужо зямельны фонд вылучан ад ляснога. Зямельны фонд павінен быць усюды скарыстаны пад сельска гаспадарчыя культуры: пад палявыя пасевы, лугі, агароды, пад штучныя сенажаці, выганы і пашы. Лясны-ж фонд усюды павінен быць скарыстаны пад вырошчваньне лесу.

Пры сучаснай залюднёнасьці, пры сучаснай зямельнай цеснаце ўжо нельга спадзявацца на тое, што лес сам вырасьце ў той колькасьці,— каб задаволіць усіх у патрэбнай драўніне. Цяпер лесу трэба дапамагаць расьці. Для нас ня зусім выгадна, калі лес расьце павольна, ды яшчэ і кепскай якасьці, калі ён рэдкі, калі ў ім шмат прагалін і пустых месц. Кожны кавалак зямлі, які знаходзіцца пад лесам (мясцовага альбо дзяржаўнага значэньня—усё роўна) можа даць і шмат драўніны, а можа і нічога ня даць. Усё гэта залежыць ад таго, якой якасьці дрэва і колькі такіх дрэў можна вырасьціць на тым, ці іншым кавалку зямлі. Калі з добрага лесу пры высечцы яго мы зможам атрымаць з 1 гэктару 600 кубічных мэтраў драўніны, дык дзеля чаго-ж нам атрымліваць толькі 300 куб. мэтр. Трэба так і вырашчваць лес, каб атрымаць як мага больш драўніны. А для гэтага неабходна, каб і ў маладым лесе, і ў сярэдня-ўзрослым, і ў прысьпяваючым лесе для высечкі ня было парожных месц, прагалін і рэдкалесься. Трэба лес вырашчваць так, каб дрэвастан ува ўсіх узростах быў напэўным, каб дрэвы расьлі ў ім шчыльна, датыкаючыся адно з другім сваімі каронамі, а не паасобна. Толькі шчыльны дрэвастой і ёсьць сапраўдны лес, бо толькі ў такім лесе вырастаюць высокія дрэвы, з малазьбежыстымі ствааламі і з добра-якаснай драўнінай.

Адсюль ясна, што трэба рабіць з рэдкалесьсем, прагалінамі, палянкамі і наогул з пустымі месцамі ў нашых лясох. Калі яны знаходзяцца ў маладым лесе, то патрэбна хутчэй іх засадзіць ці засеяць, якога-б яны разьмеру ня былі. Калі-ж яны ў сярэдня-ўзрослым лесе, то таксама іх трэба засадзіць. У сьпелым-жа лесе ў гэтым выпадку можна паступіць дваяка: калі рэдкалесьсе, прагаліны, палянкі і г. д.

малога разьмеру і шмат іх, то такія месцы патрэбна пусьціць у бліжэйшую чарговую высечку; у тым-жа выпадку, калі прагаліны, палянкі і іншыя пустыя месцы выяўляюць сабой больш буйныя плошчы, то іх патрэбна засадзіць, або засеяць лесам. Парадак працы наступны: *улетку абглядзець усерэдзіны, прагаліны і палянкі ў лесе, прывесьці іх у даведнасьць і для кожнай намеціць плян, як яе зьнішчыць. У канцы лета і ў раньнюю восень патрэбна падрыхтаваць на іх, належнай апрацоўкай, глебу для пасеву, або пасадкі; узімку падрыхтаваць насеньне, або паклапаціцца аб здабычы пасадачнага матар'ялу; увесну наступнага году зрабіць пасадку і пасеў. Далей, будучым летам даглядаць пасадкі і пасевы, а таксама намячаць месцы для пашырэньня і працягу памянёнае працы ў далейшым.*

Праф. **С. Мельнік.**

(Горы-Горкі).

---

# Бярлінскі тапољь—матар'ял для будоўлі і апалу.

Яшчэ ў 1880-м годзе ў аднэй з сельска-гаспадарчых часопісей быў зьмешчаны артыкул наконт карыснага разьвядзеньня Бярлінскага тапол.я. Гэты тапо ль, як азначалася ў часопісі, у шматлікай колькасьці разводзіцца ў Нямеччыне. Кожны хутаранін там выкарыстоўвае гэтае хутка-растучае дрэва, як для абсадкі садоў, так і будынкаў, ад учынку ветру. Дадатнымі бакамі такога тапо ля зьяўляецца, папершае, тое,



Топалі 20 год (на малюнку палавіна вышіні) каля хаты Я. Мароза.

што ён не баіцца марозаў, падругое, займае малое месца па плошчы і пасьля высечкі ізноў хутка адрастае.

Прачытаўшы такі артыкул я вельмі зацікавіўся ім і зразу-ж стаў думаць аб тым, як-бы і мне разьвясьці такога таполя. Па радзе аднаго знаёмага доктара я зьвернуўся з просьбаю да Пятроўска-Разумоўскай Акадэміі, зараз Ціміразеўскай, аб тым, каб яна мне прыслала галінак (чаранкоў) гэтага таполя. У хуткім часе я атрымаў некалькі галінак таполя, якія і пасадзіў. Галінкі прыняліся і хутка пачалі расьці. Так, за 20 гадоў я ўжо маю будаўляныя бярвеньня, з якіх магчыма будаваць халодныя будоўлі, як хлеў, гумно і інш. Адзначу яшчэ і тое, што па сваёй моцнасьці яны слабейшыя за хвою, і ў гэтым выпадку падобны да асіны. Пераканаўся і ў тым, што гэтыя таполі не разрастаюцца так раскідзіста, як іншыя пароды і не баяцца буры. Наогул, я застаўся вельмі здаволеным разьвядзеньнем такога таполя.

Прыкладваю пры гэтым фатаграфіі дзьвюх таполяй, якім ужо па 20 год. Ня гледзячы на тое, што гэтыя таполі растуць на волі, аднак-жа яны, як і ўсе (той-жа пароды) маюць нераскідзістую карону. На вышыні 2-х аршын таўшчыня ствала мае ў акружнасьці 130 сантымэтраў. З такога таполя магчыма атрымаць бервяно ў 4 саж. даўжынёю, якое будзе прыгодным для будоўлі. Садзіў я таполі і густа і рэдка, але-ж яны вырастаюць амаль што аднака—тонкі і высокія.

Аб гэтым-та карысным дрэве я і хацеў падзяліцца з чытачамі часопісі „Плуг“, якім раю засадзіць ім няўжытковыя землі і як прысады навокал будынкаў і садоў.

Селянін-дасьледчык. **Я. К. Мароз.**

# С.-Г. ХРОНІКА.

## Пчалярскі сэзон на Аршаншчыне.

Пчалярскі сэзон гэтага году ня добра пачаўся для пчаляроў. Праўда, з вясны пчолы вышлі ў здавальняючым становішчы і з невялікімі стратамі. З пачатку вясны і да канца мая на пасеках, якія ўжывалі падкормку, пчолы пачалі ўваходзіць у сілу, так што была надзея к часу галоўнага ўзятку (першай паловы ліпеня) давесьці пчол да належнай моцы. З наступленьнем чэрвеня малюнак становішча пчол зьмяніўся. Чэрвень—быў на рэдкасьць незадачным для пчол. Быўшае ўвесь час халоднае, пераменнае надвор‘е з моцнымі вятрамі ня толькі затрымала разьвіцьцё пчол, але давяло іх да становішча горшага, чым гэта было ў пачатку чэрвеня. Ня раз прыходзілася чуць, што ў таго ці іншага пчаляра, добра перазімаваўшыя пчолы, пры наліччы маткі згінулі ад голаду ў другой палове чэрвеня. Калі гэта здарылася з малым лікам сем‘яў пчол, то толькі дзякуючы таму, што пчол увесь месяц падкармлівалі. У сярэднім сем‘і пчол аддалі каля 15 фун. цукру або мёду.




Цікава прасачыць, як зьменшалася вага кантрольнага вульля за Чэрвень месяц. Для досьледу мною на вагу была пастаўлена моцная сям‘я, якой кожны дзень давалася 1 ф. цукровай падкормкі. Ня гле-

дзячы на гэткія, здавалася-б, спрыяючыя ўмовы, вага вульля увесь час зьніжалася. Расход корму і страта пчол за суткі, перавышалі прыбытак *).

Вышэй зьмешчана дыяграма зьмяншэньня вагі кантрольнага вульля за чэрвень месяц 1928 г.

Начальная точка адзначана—0. Вага вульля пры 0 была—2 п. 34 ф. Маштаб: у адной клетачцы—1 фунт.

Ува што выльлецца далейшы пчалярскі сэзон і як пойдзе пэрыяд галоўнага ўзятку, сказаць трудна, але, улічваючы непадрыхтованасьць пчол да галоўнага ўзятку (маламоцнасьць), трэба спадзявацца, што нават пры наліччы спрыяючых умоў надвор'я, гэты сэзон ня будзе добры для пчол.

С. Старасьцін.

## Паштовая скрынка.

**Сел. А. Фурсу.** 1) Пытаньне, якое Вы пачалі распрацоўваць для асобнай кніжкі, цікавае. Калі-б яна была добра напісана, г. з. мела адпаведны сэнс, дык можна спадзявацца, што яе надрукуе Бел. Дзярж. Выдавецтва. Не бачыўшы кніжкі нічога ўпэўненага сказаць нельга.

2) Скарыстоўваць артыкулы, якія зьмешчаны ў часопісах, можна, толькі трэба адзначыць № і назву часопісі, год і аўтара, адкуль узяты матар'ял. Калі для болшай яскравасьці ў тэксьце, альбо зноскай дадаецца вынятак, цэлая чужая думка, дык гэта бярэцца ў двукосьсе, прычым № і аўтар таксама адзначаецца.

**А. К.** Ваш артыкул „Падкормка скаціны летам" друкавацца ня будзе, таму што ён амаль цалкам саўпадае з артыкулам „Плуга" № 6—1925 г.

**Г. Шась.цітку.** Артыкулы „На палёх Полацкага пэдтэхнікуму" і „Торп, як кармовы прадукт" перасланы ў рэдакцыю газэты „Беларуская Вёска".

**Г. Малько.** Ваш артыкул „Тэмп разьвіцьця культуры балот" зьмясціць у часопісі „Плуг" не мэтазгодна, таму што пытаньне мае агульнае разважаньне аб справе. Такі зьмест карысны толькі длл спэцыялістых, а для сялянства-ж патрэбен больш практычны зьмест.

**Аграному І. М. Трапашка.** Артыкулы „Аб доглядзе і палепшаньню сенажацяй" атрымалі. Па мажлівасьці будуць скарыстаны.

**П. С. Абязьяніну.** Па ўзору прысланае Вамі ў Выдавецтва табліцы з рукапісі „Вычисление об'ема земляных работ при проведении асушительных и оросительных каналов" Праф. А. Д. Дубахам, якому табліца дасылалася на прагляд, дана гэткая адозва: „Складзеныя гідратэхнікам П. Абязьяніным табліцы для вылічэньня земляных аб'ёмаў палегчаць і зьменшаць затрату часу на вылічэньне пры складаньні праектаў і прымяненьнях гідратэхнічных работ.

Табліцы будуць мець збыт і за межамі Беларусі пры надрукаваньні загалоўку кніжкі на расійскай мове, можна разьлічваць на збыт 1000 экзэмпляраў у працягу 1—2 год, пры належным інфармаваньні аб выхадзе кніжкі. Для надрукаваньня, зьвярнецеся ў Бел. Дзярж. В-ва.

**Сел. А. Карнейчыку.** На запытаньне ці будзе зьмешчаны у часопісі „Плуг" артыкул, калі зробіце апісаньне сваёй гаспадаркі, не паглядзеўшы як складзена апісаньне сказаць ці будзе скарыстана ў часопісі, немагчыма. Рыхтуйце і прысылайце, зьмесьціцца калі будзе каштоўна.

**А. Дымкоў.** „Запісвайце, што робіцца ў вашых гаспадарках" друкавацца ня будзе, бо аб гэтым больш падрабязна ўжо пісалася ў часопісі „Плуг".

**Т. Трапашка.** Артыкул „Як пазбавіцца аб капуснай бліхі" спазьніўся.

*) 25-26-VI вага не зьмянялася і з 26/VII пачала крыху прыбываць.

**Выданьне Наркамзему.** Адк. рэд. **Зьм. Прышчэпаў.**

Рэд. кол. *Э. Русецкі, Шукевіч, А. Смоліч, Саф. Хоміч, Сьц. Тупяневіч.*



689

ЦАНА 20 КАП.

## Выданьні Наркамзему

1. **Атабекянц** Шляхі бэконізацыі сьвінаводзтва БССР. 1927 г. 32 стар. ц. — 15 к.
2. **Праф. Ліскун** Агульная жывёлагадоўля. 1926 г. 140 стар. . ц. — 70 к.
3. **Проф. И. Кулагин** Красный Белорусский скот. 1923 г. 18 стар. . ц. — 5 к.
4. **Праф. А. Чалінцаў**. Аб рахунковым аналізе сельскае гаспадаркі. 1924 г. 68 стар. . . . . . . . . ц. — 40 к.
5. **Праф. Штэйнберг**. Практычнае гародніцтва. 1924 г. 136 стар. . ц. — 60 к.
6. **Я. Пачопка**. Як узгадаваць і даглядаць сад. 1923 г. 72 стар. . . ц. — 20 к.
7. **Л. Калікінскі** Лубін і яго культура. 1924 г. 40 стар. . . . ц. — 20 к.
8. **С. М. Тупяневіч**. Спосабы барацьбы з кілою капусных расьлін. 1927 г. 32 стар. . . . . . . . . . . ц. — 25 к.
9. **С Тупяневіч і П. Заяц**. За лепшую сельскую гаспадарку. 1926 г. 78 ст. ц. — 25 к.
10. **М. Лайкоў**. Аб складаньні пераходных табліц на шматпольле. 1926 г. 20 стар. . . . . . . . . . ц. — 25 к.
11. **С. Тупяневіч і А. Дзямідовіч**. Вывучэньне тэхнікі сялянскага ральніцтва. 1926 г. 28 стар. . . . . . . . ц. — 25 к.
12. **А. Михайлов**. Очерк развития агрономической помощи в БССР. 1923 г. 28 стар. . . . . . . . . ц. — 10 к.
13. **П. Бойко**. Что должен знать переселенец о Д. Востоке и Сибири. 1927 г. ц. — 25 к.
14. **И. Седашев**. Лесное хозяйство. 1923 г. 15 стр. . . . ц. — 5 к.
15. **С. Ждановіч і Ярашчук**. Характарыстыка сельскай гаспадаркі Беларусі. 1926 г. 140 стр. . . . . . . . . ц. — 70 к.
16. **Б. Бабицкий**. Производственные минимумы в крестьянском хозяйстве БССР. 1927 г. 54 стар. . . . . . . . . ц. — 25 к.
17. Сельское хозяйство БССР и мероприятия по его восстановлению. 1925 г. 80 стр. . . . . . . . . ц. — 25 к.
18. **Л. Ивицкий.** Перечень действующего земельного законодательства БССР. 1927 г. 26 стр. . . . . . . . ц. — 15 к.
19. Земельный кодекс БССР с узаконениями, правилами и инструкциями. 1927 г. 354 стр. . . . . . . . . ц. 2 р. 60 к.
20. **Проф. Пичета.** История сельского хозяйства и землевладения в Белоруссии до конца XVI века. 1928 г. 180 стр. . . . ц. 1 р. 80 к.
21. **Перспективный план НКЗ** на 1925—30 г. в выпусках. 1927 г. 960 стр. ц. 3 р. 55 к.
22. **А. Д. Дубах.** 1) Изменения профиля осушительных канав с течением времени. 2) Урожай трав на канализованном болоте. 3) Нарастание мха и торфа на болоте. 4) М. Л. Лейвиков. Рост сосны на канализованном болоте. 1926 г. 86 стр. . . . . . . ц. — 65 к.
23. **К. К. Киселев.** Водный режим реки Орессы. 1926 г. 40 стр. (вып. II). ц. — 40 к.
24. **В. Г. Касаткин.** Почвенная характеристика заболоченных пространств Белорусского Полесья. 1926 г. 48 стр. . . . . ц. — 30 к.
25. **В. В. Адамов** и **И. К. Ярошевич.** Обзор растительности Белорусского Полесья. 1927 г. 96 стр. . . . . . . . . ц. — 50 к.
26. **Н. С. Фролов**. Вопросы экономики мелиораций. 1926 г. 160 стр. . ц. — 80 к.
27. **А. Д. Дубах.** Пути к уточнению проектирования осушительных работ. 1927 г. 52 стр. . . . . . . . . ц. — 30 к.
28. **Н. М. Савич.** Результаты гео-ботанических исследований в быв. Рогачевском уезде. 1926 г. 140 стр. . . . . . . ц. — 80 к.
29. **Т. Анціпенка.** Прыборка, захаваньне і перавозка бульбы. 1927 г. 30 стар. . . . . . . . . . ц. — 12 к.
30. **С. М. Тупяневіч**. Сялянскі с.-г. досьлед па БССР. 1927 г. 32 стар. . ц. — 15 к.
31. **Аб лесе і торпе.** 1928 г. 20 стар. . . . . ц. — 12 к.
32. **Ч. А. Бялюнас**. Жыцьцё і гадоўля лесу. 1928 г. 48 стар. . . . ц. — 50 к.
33. **С. І. Журык**. Халоднае сіласаваньне. 1928 г. 24 стар. . . ц. — 15 к.
34. **К. К. Киселев**. Водный рэжым реки Орессы (вып. VII) . . ц. — 50 к.
35. **М. С. Савіцкі**. Вынікі палёвых досьледаў з угнаеньнямі на Меншчыне. ц. — 25 к.

**Заказы накіроўваць**: *Менск, Савецкая, 71, Выдавецтва Н. К. З.*